
Анатолю Парэмбскаму 90! ➔3

# Ніва


Кніжка Збышка! ➔4

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

PL ISSN 0546-1960 NR INDEKSU 366714

http://niva.bialystok.pl
redakcja@niva.bialystok.pl

№ 08 (3224) Год LXIII Беласток, 25 лютага 2018 г. Цана 2,50 зл. (у тым VAT 5%)

# Плямы на панцырах



Злева направа: Лешак Жэброўскі, Аркадыюш Карбовяк, Пётр Зыховіч, Алег Латышонак і Марцін Бартніцкі

***15 лютага ў клубе «Hybrydy» ў цэнтры Варшавы адбылася прэзентацыя кнігі Пятра Зыховіча „Skazy na pancerzach. Czarne karty epopei żołnierzy wyklętych”. У ліку запрошаных аўтарытэтаў былі Лешак Жэброўскі — папулярызатар легенды выклятых жаўнераў, Аркадыюш Карбовяк — ініцыятар Музея выклятых жаўнераў у Варшаве, ды прафесар Алег Латышонак — старшыня Беларускага гістарычнага таварыства. Гэты склад быў навеяны прагай аўтара запрэзентаваць цэлы спектр поглядаў на польскіх г.зв. выклятых жаўнераў.***

Сам аўтар кнігі Пётр Зыховіч ва ўводным слове сказаў, што да гісторыі трэба падыходзіць сумленна. Правёў ён кароткае апытанне на гэты конт: 80% выказалася за сумленнасцю менавіта, 12% выказалася за паказванне толькі светлых момантаў гісторыі, а 8% адказала, што цёмных момантаў у гісторыі не было.

Чаму кніга? Менавіта апаненты Пятра Зыховіча часта гавораць, што ён піша кнігі на заказ, і, сапраўды, кніга напісана на заказ.

— Але не на заказ антыпольскіх асяродкаў у Берліне, Маскве, Іерусаліме ці яшчэ дзе, але на заказ сваіх чытачоў, — адзначыў Пётр Зыховіч. — Усюды, куды я апошнімі гадамі ездзіў — на аўтарскія сустрэчы, на гістарычныя кірмашы, пыталі мяне, ці мог бы я напісаць пра выклятых. Я адказваў, што няма патрэбы, што гэтыя справы добра вядомыя. І адказ быў па сутнасці адзін: калі ўключаем тэлевізар 1 сакавіка, у Дзень памяці выклятых жаўнераў, то чуем, што выклятыя былі беззаганнымі героямі, што змагаліся за свабоду Польшчы і ніколі не дапусціліся да ніякіх агідных учынкаў, былі ступаючымі па зямлі анёламі. Але хопіць, заўважалі чытачы, пераключыць канал і можна даведацца, што выклятыя жаўнеры былі здэгенераванай ардой забойцаў, антысемітаў і монстраў, увасобленымі д'ябламі. Тады ў людзей узнікае пытанне: А якая праўда? Памойму, праўда не такая белая як снег, як пераконваюць нашы звышпатрыёты. Але яна не такая чорная як смала, як пераконвае нас наша лявіца, а галоўным чынам посткамуністычнае асяроддзе. Выклятыя не былі ні д'ябламі, ні анёламі, былі яны людзьмі з крыві і касцей, такімі як і мы, дзейнічаючымі ў вельмі складаных умовах, ва ўмовах татальнай вайны з бальшавікамі, у такіх умовах, што лягаючы спаць не мелі ўпэўненасці, што наступнага дня абудзяцца жывымі. Гэта было такое змаганне, якое дэмаралізавала некаторых з іх. Гісторыкі мяркуюць, што цераз польскае пасляваеннае падполле перавінулася каля 120 тысяч чалавек. І вера ў тое, што ў такой вялікай людской грамадзе не было ніводнага, які не дапусціўся б ніякага агіднага ўчынку, з'яўляецца інфантыльнай наіўнасцю. Можна пісаць гісторыю ў выглядзе патрыятычных батлеек ці школьных лінеек для дзетвары, дзе выступаюць выразаныя з кардону плоскія фігуры герояў, але гэта можа задаволіць патрэбы гімназістаў. Але дарослага чалавека, які нешта ведае пра жыццё, нешта ведае пра вайну, як дэмаралізуе сапраўдная вайна, такая гісторыя не зацікавіць. Ён ведае, што гісторыя вельмі рэдка бывае чорна-белая, яна прынцыпова мае розныя адценкі шэрасці. Задачай гэтай кнігі з'яўляецца дапаўненне карціны — ёсць многа кніг, якія паказваюць геройскія ўчынкі выклятых жаўнераў, геройскія іх акцыі, іх жыццёвыя праблескі, а забываецца пра цені. І гэтая кніга мае быць менавіта дапаўненнем і паказаннем сапраўдных абліччаў герояў. Бо ключом для зразумення задумы гэтай кніжкі з'яўляецца яе загаловак, гэта *плямы на панцырах*; гэтае сцвярджэнне, пэўна, не спадабаецца нейкай частцы ўдзельнікаў нашых спрэчак. Але па-мойму гэта героі, бо кожны, ці прынамсі кожны чалавек у сваім жыцці мае вялікія моманты, але мае і горшыя хвіліны. І ў сваёй кнізе я намагаўся прадставіць найбольш спрэчныя постаці незалежніцкага пасляваеннага падполля — «Лупашку», «Бурага», «Агня», «Валыняка» і іншых — такіх, за якімі вялікія дасягненні, але і тых, пра якіх гавару з болем у сэрцы, якія дапусціліся такіх учынкаў, якіх немагчыма апраўдаць змаганнем за незалежны быт польскага народа. Я выхаваны ў культе Віленскай брыгады Арміі Краёвай, чытаў пра яе дасягненні з захапленнем. А цяпер, пазнаючы гісторыю тых афіцэраў і іх драматычных рашэнняў, пазнаў і такія факты, якіх людзі ў такіх дарагіх майму сэрцу мундзірах патрапілі дапусціцца — вывесці, як гэта было ў час рэйду «Лупашкі» на Ковенскую Літву ў чэрвені 1944 года, жанчыну з немаўлятам з хаціны, паставіць яе пры студні ды выстраліць зблізу да яе і да дзіцяці. Мусіў прачытаць пра тое, што жаўнеры з НЗВ падпальвалі дамы, дзе былі немаўляты палены ўжывую. Гэта таксама частка гісторыі. Можна да справы выклятых падысці і так, гаворачы, што гэта прыгожая легенда, Польшча адусюль акружана ворагамі, можа такія эпізоды выкрасліць з гісторыі, або так прадставіць падзеі, што ў прынцыпе вінаватыя ахвяры, а не тыя, што тыя дамы падпальвалі. Але праўда такой не была. Тых людзей трэба паказаць такімі, якімі яны былі ў сапраўднасці. Вызначальнікам патрыятызму з'яўляецца адносіны да ахвяр з уласнага народа — да палякаў замардаваных у Катыні, у Аўшвіц, у рамках генацыду палякаў на Валыні. Але адносіны да ахвяр з іншых народаў з'яўляюцца вызначальнікам чалавечай прыстойнасці. Веру, што можна быць патрыётам і адначасна прыстойным чалавекам, — падвёў свой уступ Пётр Зыховіч.




(працяг будзе)

Тэкст і фота
**Аляксандра ВЯРБІЦКАГА**





# Чарговы раз пра зброю

Ужо пісаў я на гэтую тэму — неаднаразова, каюся. Ды не магу вытрымаць як нішчаць свабоду пад выглядам павышэння бяспекі. А ў выніку ні бяспекі, ні свабоды. А грамадству ўпарта задаюць алагічнае пытанне пра тое, што важней: свабода ці бяспека? Свабода ж і ёсць бяспека! Большай бяспекі чым свабода вам ніхто не гарантуе.

Чаму мы тут, у Беларусі, вельмі цікавімся тым, што адбываецца ў далёкай Амерыцы? Вось, прыкладам, выбары ў нас зараз. Ды каго яны цікавяць, тыя выбары?! А вось як выбары ў ЗША, тады практычна кожны беларус ведае хто там ідзе, якую мае праграму і ўвогуле як яно там ды што. Цікавіць гэта ўсіх.

Адказ на гэтае пытанне вельмі просты. Таму што мы тут, хто свядома, хто падсвядома, а хто і ўвогуле не ўсведамляючы аніяк акрамя як інтуітыўна, адносім сябе, свой народ і сваю краіну да вялікай цывілізацыйнай сістэмы, дзе галоўнымі каштоўнасцямі з'яўляюцца праўда, справядлівасць і свабода. Менавіта свабода. А паколькі ў сябе зараз мы гэта бачым значна радзей, чым хацелася б, то мы і цікавімся тымі краінамі, якія можна ўзяць за нейкі прамежкавы эталон на шляху да пабудовы справядлівага і свабоднага грамадства тут, у сябе. Таму часамі і перажываем, як у іх нешта не так здараецца, значна больш, чым яны самі. Нібыта праектуем на будучых сябе іх сённяшнія праблемы.

Вось і чарговыя спрэчкі пра абмежаванне пакупкі зброі, якія зноў пачаліся ў ЗША пасля чарговай жудаснай трагедыі ў адной фларыдскай школе, у нас успрымаюцца як спрэчкі, якія нам усё адно прыйдзецца некалі прайсці ў сябе. Тады, калі станем свабоднымі як яны. А нават цягне параіць ім цяперашнім, і нам заўтрашнім, нешта з пагляду нас сённяшніх.

Мы жывем у краіне, якая зусім нядаўна ішла шляхам еўрапейскай дэмакратызацыі. І каму як не нам ведаць, што ад гэтага дэмакратычнага разгону да таталітарнага застою трэба ўсяго пару гадоў. І ўсяго адзін першы забаронны закон, бо ўсе астатнія забароны проста аўтаматычна папаўзуць як тараканы ноччу. Тут галоўнае, каб грамадства праглынула і прыняло адну першую забарону, адно першае абмежаванне сваёй свабоды.

Здавалася б прычым тут зброя? Ну а як жа ж тады знакамітае на ўвесь свет амерыканскае права народа на ўзброенае паўстанне? Без зброі ўзброенага паўстання не бывае. Ды што там паўстанне. Зараз не той час. Дастаткова проста звычайнага права чалавека на абарону свайго жыцця і гонару, гонару і жыцця сваіх блізкіх, сваёй свабоды?

Апаненты скажуць, што акурат гэтая зброя і забрала жыцці школьнікаў у Фларыдзе. Але ж страляў са зброі канкрэтны чалавек. І каб ён зброі не знайшоў, то што, яго псіхічны стан, які піхнуў яго на гэтае жудаснае злачынства, выправіўся б? Усім ясна, што не. Ён зрабіў бы гэтае злачынства пазней, праз гады, толькі больш хітра і ціха зрабіў бы. Вынасіў бы гэтае не вылечанае пачуццё, а яго ж ніхто не лячыў, і зрабіў бы. І можа кагосьці памылкова абвінавацілі б у зробленым кімсьці злачынстве. І можа каго і расстралялі б, як гэта было неаднаразова ў справах з серыйнымі маньякамі, якія загубілі безліч жыццяў, але падазрэнні на іх не падалі. Што, так было б лепш? І нельга наракаць на каталізатар і паскарыцель праблемы, якім у гэтым выпадку стала аўтаматычнае ружжо, а выяўляць і выпраўляць саму праблему. Трэба зразумець, што штурхае канкрэтнага чалавека на злачынства, і вырашаць гэтую праблему паслядоўна ды разумна, а не тупа ўсё спісваць на вольны продаж зброі. Слова „вольны" не стыкуецца са словам „злачынства". І вельмі шкода, што многія журналісты і палітыкі, дзеля таннага піяру або з-за няздольнасці глыбока думаць і разбірацца ў праблеме, збіваюць грамадскую думку на ілжывы след, прымушаючы людзей памылкова меркаваць, што нейкая забарона можа вырашыць праблему. Бо сама па сабе забарона ўжо і ёсць галоўнай праблемай!

А чалавек цягнецца да свабоды. І калі нешта забараніць зараз, то рана ці позна, чалавецтва гэта адвае. Таму мы і цікавімся тым, што адбываецца ў Еўропе ці Амерыцы не менш, чым сваімі цяперашнімі выбарамі. Такія выбары, якія зараз адбываюцца тут, у нас, хутка кануць у мінулае. А такія пытанні, якія вырашаюцца зараз там, у іх, гэта наша будучыня.

**Віктар САЗОНАЎ**



# Каралеўна Беласнежка толькі спіць

Выбары ў Беларусі — любога рангу — пусты рытуал. Яны распрацаваны, не каб каго-небудзь абраць, таму што ўсё і ўсе ўжо даўно было абранае. Самой уладай. Труізм? Труізм. Але ж які раздражняючы. Але што я магу зрабіць, што чым больш дробная ўлада, тым больш яна чапляецца за пустыя рытуалы? Хопіць паназіраць за ўладай, якая ў цяперашні час кіруе польскай дзяржавай. Рытуалізацыя паўсядзённага жыцця ў Польшчы стала амаль нахабнай. Не без прычыны. Рытуалізацыя замяняе змест. Прыкра сказаць, але польская дзяржава ўсё больш беззмястоўная. А польскае грамадства?

Ужо загадзя вядома, што наступныя выбары ў Беларусі выйграе Лукашэнка, пераможа заўсёды правільна абраны самім сабой на прэзідэнта. Таксама выбары ў органы мясцовага самакіравання ў Беларусі не мусяць служыць для таго, каб каго-небудзь выбраць, таму што ўсё і ўсе ўжо даўно былі абраны. Недзе і дзесьці. Невядома для чаго. Мабыць, для ўпрыгожання? Вядома толькі кім. Неабавязкова нават асабіста прэзідэнтам прызначаным самім прэзідэнтам. Аўтарытарная ўлада, якую ён фірмуе сваім прозвішчам, вызначаецца як дробавы лік з адзінкай у лічніку і любая яго кратнасць у назоўніку. Пішу «любы», таму што доступ да назоўніка ўлады з'яўляецца для кожнага адкрытым. Хопіць заплюшчыць вочы і заткнуць вушы, а рот закрыць рукою. І імітаваць тое, што зверху. У лічніку. Колькі беларусаў свядома не згодных з такім «дробавым» варыянтам? І нават дае ёй гераічны адпор... Давайце палічым іх. Досыць на самой справе пальцаў на руцэ? Ну а большасць?

Гэта няпраўда тое, што ў мінулую нядзелю скончыліся мясцовыя выбары ў Беларусі. Сапраўды, выбарчыя ўчасткі былі адкрыты, павешаны спісы кандыдатаў, раздадзены бюлетэні для галасавання, і, самае цікавае, толькі правільна памечаныя і ўкінутыя ў урны. Адным словам, яўка была зноў была выдатная, якая характэрыя явачныя выбары. Сутнасцю іх з'яўляецца ўдзел у выбарчым рытуале. Удзел з'яўляецца быццам бы добраахвотным. За гэтым слоўцам «як быццам» хаваюцца, аднак, розныя метады пераконвання. Некаторыя з іх з'яўляюцца грубымі, іншыя больш удасканаленымі. Многія беларусы ідуць на выбары нават дэманстратыўна, але не для таго, каб выстаўляць сябе напаказ перад іншымі са сваім грамадзянскім абавязацельствам, але, хутчэй за ўсё, каб пазбегнуць дамаганняў на працы ці варожасці цікаўных суседзяў. Жыццё ж. Цяжка сказаць толькі тое, што чалавек думае, стаяўшы з памечанай картай перад выбарчай скрыняй? Распавядаў мне сябар з Беларусі, што ў ягоным атачэнні ўрна называецца грамадзянскай памойкай. Бо не злічваюцца галасы, усе гэтыя «за» і «супраць». Толькі назоўнікі. Дарэчы, ніколі невядома, ці «супраць» не стане «за», а «за» — «супраць». Толькі «назоўнікі» ўлады, служачыя ў выбарчых камісіях ведаюць пра гэта. Або ў патрэбны час даведаюцца. Важная колькасці подпісаў на яўнасці выбарчым спісе. Відавочны доказ улады, што яна — улада. Паказвае на гэта... яўка.

Нішто так (брыдкай) улады не прыхарошвае, як яўка (выбаршчыкаў), якая расце! — кажа старая прыказка. Штосьці ў гэтым ёсць, хоць гэта гучыць недарэчна. Тым не менш, яўка — як люстэрка, у якім абсесійна праглядаецца паношаная ўлада. І чым больш яна азызлая, маршчыністая і зношаная, тым больш настойліва ў яго заглядвае. «Люстэрка, люстэрка, скажы ў рэшце рэшт, хто самы прыгожы на ўвесь гэты свет?».

Якая ёсць улада, кожны бачыць, што не азначае, што ўсе кажуць ёй праўду прама ў вочы. Улада не для таго круціцца перад люстэркам перад выбарамі, каб пачуць тое, чаго не жадае пачуць: «Ты непрыгожая, склератычная шантрапа. Пара табе ісці прэч!» А дзе ж там такое!

Памятаеце казку пра Беласнежку, якую па-здрадніцку атруціла мачаха раўнівая да яе прыгажосці? "Ты цудоўная, але прыгажэйшая за цябе Беласнежка", — сказала каралеўскай шантрапе чарадзейнае люстэрка. «Аніколі!» — зараўла старая шантрапа. І здарылася тое, што здарылася.

Беласнежка явіцца нам як самая прыгожая ў свеце дэмакратыя. У Беларусі, атручаная, спіць. У Польшчы неўзабаве засне. Люстэрка, аднак, не хлусіць. Старая шантрапа гэта старая прайдоха. І ўсё.

**Міраслаў ГРЫКА**



Сваімі вачыма

# Сумны ўрок гісторыі

Чалавечая памяць, гістарычная памяць народа, палітыка, затым крыўда, зацятасць і... рэцэпт на міжнацыянальныя і дзяржаўныя канфлікты маем у пілюльцы. Так было ад стагоддзяў, так ёсць і зараз. І тут усе прыгожыя і мілыя майму сэрцу словы і прыказкі кшталту, што гісторыя з'яўляецца настаўніцай жыцця, бяруць адвод і становяцца, на жаль, толькі пустымі сказамі. Сіла эмоцый пераважна бярэ верх над рацыяналізацыяй гістарычных досведаў і даследаванняў. Таму маем паўтаральнасць і прадбачлівасць канфліктаў, узнікаючых перш за ўсё на нацыянальна-рэлігійных асновах. Зараз Еўропа, але і іншыя куткі свету не глухія на такія выклікі, тады маем неверагодную, грамадска-культурную, двухполюсную разыходжанасць паміж палітыкай звышкарэктнасці і палітыкай толькі гістарычнай памяці. Два ідэалагічныя бакі счапіліся не на жарты і ўжо не толькі ў парламентарным ці культуралагічным дыскурсе. Свае медыі, свае дэманстрацыі, свае палітычныя сілы, а ўсё пад узаемную апляўху і прыніжэнне адных другімі. А месца на нармальнасць, дыялог і ўзаемаразуменне становіцца штораз менш. Толькі двухполюснасць і чорна-белае вымярэнне мае быць чалавечым «шчаслівым выбарам». Хто не з намі, той супраць нас — толькі да гэтага зараз, на жаль, здаецца звялася ўся размова пра палітычны плюралізм паміж лева-ліберальнымі і нацыянальна-правымі грамадскасцямі сучаснага свету. Пры такой філасофіі пачынаецца маўклівая згода і дазвол на прымяненне штораз больш жорсткіх і брудных метадаў палітычнай барацьбы, уключна нават з фізічнымі атакамі ў дачыненні да сваіх сапернікаў. Няёмка і няўпэўнена пачынаюць сябе адчуваць у такой сітуацыі людзі, якія не знаходзяцца ў палоне толькі адной, святой, непадзельнай гістарычнай праўды, або іншога ідэалагічнага ці палітычнага напрамку. Гэтыя праблемы зараз — неад'емная частка рэчаіснасці не толькі ў кантынентальна-дзяржаўным вымярэнні, але і ў нашым, падляшскім свеце польска-беларускай гістарычнай памяці і закалотаў у бягучай польскай дзяржаўнай палітыцы, якая рыкашэтам адбіваецца па нашых галовах.

Так як штогод пералом студзеня і лютага для тоеснасці і нашай беларускай памяці на Беласточчыне з'яўляецца часам задумы і рэфлексіі над крывавымі дзеяннямі некаторых узброеных атрадаў польскага падполля пасля Другой сусветнай вайны. На старонках «Нівы», у іншых медыях і гістарычных апрацоўках, уключна з высновамі Беластоцкага аддзялення Інстытута нацыянальнай памяці, пісалася пра злачыннасць дзеянняў Рамуальда Райса «Бурага», ці рэпрэсіўныя акцыі Зыгмунта Шэндзеляжа «Лупашкі» ў дачыненні да мірнага насельніцтва беларускіх вёсак. **Тут трэба яшчэ раз выразна сказаць і прыгадаць, што адзінай прычынай трагічнага злачынства была менавіта нацыянальнасць і толькі беларуская нацыянальнасць загінуўшых людзей. А тое, што ў атрадах вышэйзгаданых камандзіраў былі асобы, якія вызначалі сябе як праваслаўных палякаў, не мяняе ані прычын, ані маштабу злачынства. Наадварот, прымушае нас задумвацца над паслядоўнасцю такіх ідэнтыфікацый як у мінулым, так і зараз.** Аднак узняты дзяржавай міф выклятых жаўнераў, пра што пісаў я не раз у сваіх фельетонах, дазволіў дыхнуць новым жыццём і атрымаць беззаганнасць тым, якія маюць у сваім жыцці не толькі гераізм змагання і праследу з боку камуністычнай улады, але свае душы і рукі апаганілі крывёю нявінных людзей. Ведаюць пра тое і польскія гісторыкі, і публіцысты. Аб прыкладзе такой кніжкі і дыскусіі, якая мела месца на мінулым тыдні ў Варшаве, можам прачытаць у гэтым нумары «Нівы». Са свайго боку, калі паглядзеў я гэтую дыскусію ў інтэрнэце, то шчыра спачуваю прафесару Алегу Латышонку, што прыняў ён на сябе такі ўдар псіхалагічнага ціску і неўтаймаванага гіпертрыўмфалізму і агістарычнай праўды. За адзін вечар прыйшлося атрымаць такую дозу ўражанняў, ад якіх не толькі можна было захварэць, але і ўсур'ёз яшчэ раз задумацца над рэальнасцю мінулага і сённяшняга страху беларускай меншасці ў сутыкненні з напорыстасцю ідэалогіі адзінай праўды. На жаль, ад такога падыходу не будзе выйгрышу для нікога. Сумная праўда ад гэтага ўрока гісторыі.

**Яўген ВАПА**



# Анатоль Парэмбскі памятае і піша

Анатоль Парэмбскі нарадзіўся ў 1927 годзе ў Страшаве ў гміне Гарадок на Беласточчыне. Усё жыццё пражыў на Гарадоцкай зямлі — у Страшаве, Мастаўлянах, на Станцыі Валілы. Далей на роднай зямлі, гаспадар. Хаця, калі напала яго лейкемія і стала шванкаваць сэрца (заклалі яму на сэрца электракардыёстымулятар), не даў бы рады сам дагледзець гаспадарку з жонкай Марыяй. Добра, што можа хоць пасядзець ля сцяноўкі, пачытае, і апетыт яму крышку паправіўся. Беларускі народны паэт з Валілаў-Станцыі, аўтар трох зборнікаў паэзіі *Хвалі лёсу (2008), Мы тут былі і будзям (2010)* ды *Воблакі і промні (2014).*

— Нарадзіўся я 25 снежня, але ў дакументах запісалі, што 23 снежня. Чаму так атрымалася? Таму, што пасля Першай сусветнай вайны праваслаўныя святары не мелі арыгінальных метрычных кніг. Яны толькі занатоўвалі, калі хрысцілася нованароджанае дзіця. Як спатрэбілася метрыка, то трэба было ісці да каталіцкага ксяндза ў Гарадку. І як бацюшка рабіў метрыку, запісаў 23 снежня, — усміхаецца паэт-селянін. — Гаспадарка была досыць вялікая, але як пачалі дзяліцца, то на душу прыпала па два гектары. З двух гектараў цяжка было ўтрымаць сям'ю і таму браты майго бацькі шукалі новага месца, каб ажаніцца і таму ішлі ў прымакі. З працай, каб падзарабляць, было горш чымсьці цяпер, пры капіталістычнай дэмакратыі. Мой бацька шукаў іншых магчымасцей, каб стварыць добрыя ўмовы для жыцця сваёй сям'і. Ажаніўся бацька з удавою, у якой былі тры дачушкі, але ўсе яны памерлі ў бежанстве. Ну, а як бацька ажаніўся, то нажыў з маёй мамай чатырох сыноў — трох маіх братоў. Майму бацьку была нагода купіць гаспадарку ў Мастаўлянах па Кастусю Каліноўскім. У Страшаве гадаваліся мае бацькі і дзяды. І, вось, так мы апынуліся ў недалёкіх Мастаўлянах, на маёмасці Кастуся Каліноўскага. У выніку міжваенных земляробчых рэформ мастаўлянскі маёнтак славутага рэвалюцыянера царскіх часоў распарцалявалі. Зямлю прадалі толькі палякам — перасяленцам з цэнтральных і заходніх рэгіёнаў Польшчы. Выключэннем быў тут Іван Парэмбскі, папраўдзе Парэмскі, бо гэтак гучыць перароблене на польскі лад чыноўнікамі радавое прозвішча гэтай зажытачнай і працавітай, патрыятычнай сям'і, якая ў 1928 годзе набыла маёнткавы ўчастак Каліноўскіх. Працавалі заўсёды шчыра і талкова, рук не апускалі. Таму і радзіла ім. Гаспадары.

Дэбютаваў 21 чэрвеня 1941 года. Ад часу, калі ўзнік тыднёвік беларусаў у Польшчы „Ніва" — ад 1956 года — быў ён яго карэспандэнтам і хранікёрам тутэйшага быцця. Усё жыццё расказвае ў вершах пра тутэйшасць — былое-гістарычнае ды цяперашняе, каменціруе яго лірычна, публіцыстычна і жартам. З'яўляецца актыўным членам Літаратурнага згуртавання „Каласы" ў Гарадку, якое свае творы прадстаўляе друкам (у прэсе і альманахах) ды на сцэне. Выдаў зборнік вершаў „Хвалі лёсу", з якога творы ахвотна выбірае моладзь гарадоцкіх школ для дэкламацыі. Таксама творы з навейшага тома выклікалі зацікаўленне маладых дэкламатараў, якія іх ужо з рукапісаў, атрымалаўшы ад аўтара, агучылі на конкурсах „Роднага слова".

У зборнік уключаны творы краязнаўчага, гістарычнага, сатырычнага і лірычнага характару, якія каменціруюць падзеі актуальныя не толькі на тэрыторыі найбліжэйшай пажылому паэту-селяніну. Прыгожа апісвае ён родныя краявіды, чалавечы лёс у гісторыі, даўнейшую і сучасную гісторыю старажытнага горада Хадкевічаў і прападаючых забытых вёсак, якія засталіся ў яго памяці як бурліўшыя жыццём. Не толькі настальгія прамаўляе з твораў Анатоля Парэмбскага. Ён — выдатны сатырык!

Анатоля Парэмбскага сустракаем між іншым на паэтычнай імпрэзе ў Гарадку, сарганізаванай Адамам Сяменчыкам.

У агародзе на „O-Gródku" сабралася вялікая кампанія паэтаў з усяго свету, ды гаспадар не забыўся пра сваіх калег, з якімі друкаваўся ў зборніку „Жыццём пісанае" — з тутэйшай літаратурнай асацыяцыі „Каласы". Між іншым на гэтай аўтарскай сустрэчы ў атачэнні кветак якраз Анатоль Парэмбскі чытаў свае вершы па-беларуску, і выклікала гэта аплаўз сабраных. І параўнанне мелодыі ягоных вершаў да класікі; выступлене выклікала, між іншым, дэкламацыю вершаў Сяргея Ясеніна паэтэсамі з Варшавы.

— Гэта ўжо Ваша трэцяя кніга, — любуюся на вокладку ў бярозкі. — У томіку вершы зноў пра родны Гарадок?

— Не толькі. Пра жыццё, адным словам, — кажа дзядзька Анатоль. — Пра тое, што я памятаю, што знаю, што *дзісь* ёсць, то ўсё гэта ў гэтай кніжцы можна вычытаць. Ну бо што можа больш чалавек пісаць? Пра тое, што ведае. Пра тое, што не знае — не напіша. Дык тое больш-менш так тут унятае. Так, хіба, як і ў папярэдніх маіх кнігах.

— Загаловак гэтага зборніка — „Воблакі і промні". Штосьці — усё ж такі — светлае?

— Ну так, вядома, жыццё не складаецца толькі з сонца. Размаітае яно бывае. Бывае яно і зацемненае, калі таго сонца не відна. Таму і тыя воблакі. А промні — так як *дзісь* відна. Сонца свеціць, і чалавек

**Анатоль ПАРЭМБСКІ**

## *Мы тут былі*

*Мы тут былі, мы тут былі.*
*Мы тута ёсць і тута будзем.*
*Адвечна тута мы жылі*
*І сёння хочам звацца людзьмі.*
*Ніхто сюды нас не прывёз —*
*Ані маскаль, ані татарын.*
*То Бог такі нам кінуў лёс*
*І мову даў і даў звычай.*
*Над Бугам вечна мы жылі,*
*Над Нёмнам і Берэзінаю.*
*Ляхі братамі нам былі,*
*Мы русам праваю рукою.*
*Патом Літвой нас сталі зваць,*
*Вярхом хацела быць Карона*
*І веру нашую таптаць,*
*Рымяніць нашыя імёны.*
*І хоць памог нам Веры-брат,*
*Каб не утапіцца ў чужым целе,*
*Усе збягаліся на захват*
*Забраць нам тое, што мы мелі.*
*Айчыну мелі мы сваю,*
*Любілі так як родну маці.*
*Цяпер за гэтым я стаю,*
*Каб беларусам мяне зваці.*
*Я не хачу быць паляком,*
*Ані другога сорта русам.*
*Мой род — як кроў із малаком.*
*Я быў і буду беларусам.*

гэтым цешыцца. І так жыццё праходзіць. Так. Неўзабаве мне будзе 86 гадоў. Жыццё захутка ўцякае. Чалавек не думаў, што столькі будзе жыць, ды якасьць прыходзіцца, — смяецца. — Мусі так — колькі каму прыходзіцца, столькі і жыве.

— Яшчэ пішуцца Вам вершы?

— Пішуцца, але менш. Як сын памёр, мне неяк адпала *хэнць* пісання. Не пішацца мне так, як калісь. І жартаўлівы верш часам паяўляецца... Часам... Жыццё падыктуе штосьці цікавейшае, трапнае сказаць ці напісаць...

Усё жыццё Анатоль Парэмбскі пражыў на Гарадоцкай зямлі — у Страшаве, Мастаўлянах, на Станцыі Валілы. Усё жыццё расказвае ў вершах пра тутэйшасць — былое-гістарычнае ды цяперашняе, каменціруе яго лірычна, публіцыстычна і жартам. Вось верш „Выкідайце тэлевізар" стаў вельмі папулярным не толькі сярод моладзі. Класічная форма вершаў, якая даспадобы ўмеламу аўтару, спрычыняецца да таго, што ахвотна выкарыстоўваюць іх тутэйшыя музыкі як словы песень („Кацярынка"). Думаю, што новы зборнік будзе таксама знакамітым дапаможнікам для настаўнікаў беларускай мовы не толькі ў школах на Гарадоччыне — як прыклад жывой мовы і збор актуальных тэкстаў для дэкламацыі і аналізу.

Сядзім на ляжайцы ў прыгожым і выгадным доме Парэмбскіх па вуліцы Лісяй у Валілах-Станцы. Лепш адчуў сябе юбіляр, бо ўстаў, ходзіць, паправіўся яму апетыт. Вельмі шчаслівы быў, што наведалі яго ў юбілей Янка Карповіч і Галена Ляховіч, з адмысловымі падарункамі ад сябе і ўсіх гарадчан. Шчыра паразмаўлялі, паўспаміналі. Успамінаецца столькі ўсяго — толькі запісвай. Ці ў вершы, ці ў прозе. Вершам кажа спадар Анатоль, як дыхае — меладычна, на поўныя грудзі. Памятаецца прыгожае, памятаецца і горкае. Найбольш пра роднае. Пра людзей. Пра тое, што не ўсе памятаюць ці не ведаюць. Пра найбліжэйшае і тое, што далёка. Нават пра Космас.

— Бо ж ці не задумаецца земляроб, падняўшы вочы ў неба, на Сонца, на зоркі ноччу? Для чагосьці ён жа тут жыве, не толькі каб хлеб есці...

І пра горкае, з жыцця роднай старонкі. Вось якраз сёння ўспамінаецца ваенны і пасляваенны час.

— Забілі Тамашука, яшчэ аднаго, а трэцяга забілі свайго — гэта з загаду «Лупашкі», — успамінае. — Той, кажуць, адказаўся ісці паліць Патоку. Людзі «Лупашкі» сядзелі ў Мастаўлянах, недалёка ад нас, на калёніі. Памятаю, што ў той час у газетах пісалі, што Лупашка крыўся на Зялёным. Але то няпраўда, не на Зялёным ён хаваўся, а крыўся на хутары ў Тэкелі, у стадоле. Пасля ў лесе выкапалі зямлянку. Есці насіў Тэкелі сын, і са мною разам, бо сам баяўся туды хадзіць. Паліцыянтам быў Юлек Парэмбскі. І ён, і Клемент Дзярманскі ведалі пра «лясных». Міліцыя ўсё ведала, але не было загаду іх там «звінуць». Пасля за адну ноч усіх паарыштоўвалі, некаторых пасадзілі, пасядзелі яны з месяц, але была амністыя. З нашых улад нікога яны не зачапалі. Толькі што з загаду «Лупашкі» забілі тых трох чалавек. Але з бандытаў цяпер парабілі «багатэраў». Цяпер маладому пакаленню ўб'юць у галовы, і дзеці не будуць ведаюць, якая сапраўдная гісторыя. Усё што зроблена іншымі — фэйка, а толькі мы мудрыя. А хто ведае, можа і не скажа. Або не памятае, або забыўся. Або апасаецца. Дык запісваць усё трэба. Для памяткі, для напаміну, для асцярогі.

Тэкст і фота
**Міры ЛУКШЫ**

## Нараўчанскія паэты ў Чыжах

16 лютага гэтага года паэты Нараўчанскай гміны Гайнаўскага павета ездзілі на аўтарскую сустрэчу з вучнямі Пачатковай школы ў Чыжах. У гэтай вялікай і прыгожай ды эстэтычнай вёсцы на Гайнаўшчыне пражывае 335 чалавек. Сустрэча адбылася ў прыгожай адноўленай святліцы.

Свае вершы і лірычныя мініяцюры (кароткія празаічныя творы) чыталі Вера Радзіванюк, Аляксандр Радзіванюк, Канстанцін Целушэцкі, Янка Целушэцкі і Мікалай Варанецкі. Мерапрыемства вяла дырэктарка Гміннага асяродка культуры ў Нараўцы Галена-Марыёля Рэент. Яна коратка расказала пра кожнага з прысутных паэтаў, паказала зборнікі іх вершаў і апошні сёмы нумар беларускага штотыднёвіка „Ніва" ад 18 лютага г. г., у якім надрукавана падборка вершаў Канстанціна Целушэцкага. Яны сталі падарункам для чыжоўскай святліцы.

Моладзь слухала паэтаў уважліва і сцішана. Па ўсім было відаць, што прыгожыя і да таго — як шчыра сказала адна вучаніца — простыя і зразумелыя вершы ёй вельмі падабаліся. Яна ўзнагароджвала іх воплескамі. Мігам праходзіў час. Паэты прачыталі перш-наперш свае лепшыя творы. Некаторыя па сем вершаў.

Пасля чытання паэты адказвалі на пытанні вучняў, між іншым, на такое: ад чаго ўзялася патрэба пісаць вершы? Аказваецца, у кожнага літаратара было інакш, у кожнага натхненне прыходзіць неспадзявана і ён яму падуладны. Пішучы, ён адчувае сябе як у экстазе, у творчым непакоі і запале. Няважна яму тады пара дня ці ночы. Ён як апантаны адрываецца ад акружаючай яго рэчаіснасці, ад усяго свету. Ён тады, так бы мовіць, знаходзіцца ў гарачых „абдымках паэтычнай музы".

Сімпатычным культурна-асветным чыжоўскім работніцам таксама спадабаліся беларускія вершы нараўчанскіх паэтаў і яны ад сэрца шчыра ім дзякавалі. Яны — як згодна заявілі — запросяць да сябе нараўчанскіх паэтаў яшчэ раз сёлетняй восенню на вечаровую сустрэчу з дарослымі жыхарамі Чыжоўскай гміны. У іхняй гміне не пішуць вершаў. Але — хто гэта ведае — можа якраз такія аўтарскія сустрэчы будуць тым штуршком для іх да пісання лірыкі і апавяданняў. Няхай жа тады пішуць і дасылаюць свае творы ў рэдакцыю тыднёвіка беларусаў у Польшчы „Ніва" ў Беластоку. **(яц)**

## Народныя прыкметы

На Грамніцы я пазваніў да бацькоў і запытаў маму, якой будзе зіма. А мама сказала: «На Грамніцы, палавіна зімы. Але ў гэтым годзе на Юр'я вол не наесца травіцы». А чаму не наесца? Таму, што ў гэтым годзе на Грамніцы не было адлігі. Калі на Грамніцы адліга, дык неўзабаве чакайце ранняй вясны, а калі мароз на Грамніцы, дык на пачатку мая будзе холадна. Не толькі мая мама ведае шмат народных прыкмет. На тэлеканале «Беларусь 24» у кожную нядзелю пасля 8-й гадзіны вечара польскага часу ідзе перадача на беларускай мове, якую вядзе Святлана Панкратава. З яе можна даведацца, што калі першай стане развівацца бяроза — год будзе сухі, а як ляшчына — дажджлівы. Многа дажджу ўлетку — снег зімою, гарачае лета — марозная зіма. Таксама калі калолі свінню дык глядзелі на касу (śledziona). Калі каса тоўстая — зіма доўгая і цяжкая, а калі тонкая — зіма цёплая і кароткая. Народныя прыкметы гэта багацце нашага беларускага народа.

Юрка БУЙНЮК



Фота Міры Лукшы

# Паэт, які не піша, а спявае!

«Спеў ачышчае больш чым гарэлка», — кажа Збігнеў Насядка, вядомы на Падляшшы спявак і суаўтар выдадзенага напрыканцы 2017 года тома «Лецень», які разам з вершамі і перакладамі Насядкі змяшчае фатаграфіі Віктара Волкава і дызайн Анджэя Струміллы. Кніжка каларытная — як асоба Збігнева Насядкі, вечна маладога мастадонта беластоцкай багемы, журналіста і дырэктара Музычнага таварыства «Słopiewnie», арганізатара Фестывалю народнай музыкі «Даўнія песні — маладыя галасы» ў Ваневе над Нарвай, вандроўніка і непаседы, пчаляра, сябру нацыянальных меншасцей і чытача «Нівы». Прамоцыя ягонай кнігі, якая 16 лютага праходзіла ў будынку Ваяводскай бібліятэкі, нагадвала ўрачысты бенефіс, з музыкай і выступленнямі гасцей і ўспамінамі. Сам Збышак, пад шчырае захапленне сяброў і паклоннікаў, праспяваў свае песні. А народу прыйшло столькі, як на даваенны кірмаш — сваякі і сябры, старыя і маладыя. Унучкі-прыгажуні прыехалі ажно з Кракава. З'явіўся экспрэзідэнт Беластока Лех Руткоўскі, увесь дэпартамент культуры Маршалкоўскай управы з дырэктарам Анатолем Вапам, Артур Гавэл — дырэктар Падляшскага музея народнай культуры (які разам з Фондам «Суседзі» выдалі кніжку), паэты, беластоцкія мастакі і журналісты... Сустрэчу адкрыў Марцін Ліцьвінка народнай песняй, а акампанавалі яму дзяўчаты на колішніх гармоніку і скрыпцы. У ролі вядучай выступіла непаўторная Галена Марцінкевіч з Маршалкоўскай управы.

«Jestem przedwojenny», — пачаў Збышак. Паколькі з героем сустрэчы мы праспявалі не адну песню, ад гэтага месца дазволю называць яго па імені. Збышак, хоць з пакалення маіх бацькоў, ад пачатку застаўляў мяне звяртацца да яго па імені. Падобна было з людзьмі малодшымі за мяне на пакаленне. І хоць выданне сваёй кнігі сустрэў ён на 81 годзе жыцця, для ўсіх ён аўтар сучасны і міжпакаленны. І трапна адзначылі ў час прэзентацыі, што Збігнеў Насядка гэта паэт, які не піша, а спявае... Гэтую красамоўную недамоўленасць паясніў у сваіх творах аўтар. «Лецень» — загаловак тома, ад сардэчнага, хаця рэальнага поля, дзе ў дзіцячыя гады Збышак пасвіў кароў. Яго курпёўскае дзяцінства, як і беларускае, ахінутае стыхіяй працы і прыроды. І песні, старыя, як падляшскія — задумлівыя, архаічныя з магічным зместам. Палякі з іншага рэгіёна дакаралі іх, курпяў: *у вас на вяселлі спяваюць, як у нас на мярлінах!* Збышак Насядка падобныя заўвагі ўспрымаў як кампліменты. З маленства заслухаўся ў расказы бацькоў пра Палессе і яго настальгічныя напевы, для якіх, беручы пад увагу іх старажытнасць, цяжка адшукаць аналаг у свеце. Збышак як ніхто разумее сэнс прапаэзіі, якая першапачаткова выяўлялася ў песні. Свае вершы свядома перапыкае радкамі і фрагментамі старых песень, напамінаючы пра духоўныя карані. Разумее іх сутнасць:

— Калісь песня служыла не толькі для забавы і смеху, — адзначае паэт-спявак. — Дзякуючы песні, людзі заклікалі рэчаіснасць, варажылі на лепшую будучыню. З дапамогай песні здзяйснялася магія. Кампаненты для рытуалу дастаўлялі дары прыроды: рака, дрэвы, птушкі, вецер. Жывое і чуткае сужыццё чалавека са светам прыроды выяўлялася ў перасяканні ідавочных меж, бачанні будучыні ў старым люстры мінуўшчыны: *Hej! Zaśpiewam pieśni dawne. Wspomnę lata młode...*

У томе асаблівая сувязь з птушыным светам. У страфах, як у старажытных легендах і песнях, гучыць вяшчунскі голас і перасцярога. У «Лецені» гусі прадказваюць расстрэл жыдоў у 1941 годзе ў мястэчку Навагруд. Рэха здарэння ў творы «A płynęły gąski białe» і нарысе-мініяцюры «Jak o tym zapomnieć», інспіраваныя жахлівымі ўспамінамі з дзяцінства.

*...У чэрвені 1941 года, калі да Навагроду зноў прыйшлі немцы, мне было чатыры з паловай гадзіка. Памятаю, як жаўнеры ў зялёных мундзірах гналі жыдоў ад боку рэчкі, Конскага рынку, Гор і Здрояў, за шашу да Мясткова, на агароджаны школьны спартовы пляц. Некалькі метраў ад мяне, за ровам, ....плёўся ў адной кашулі, без спеху, малы хлопчык. Ён быў, здаецца, меншы за мяне. Я запамятаў яго чорныя валасы. За ім ішоў немец у чорным мундзіры, у ботах з халявамі і аўтаматам у руках. Нямецкі жандар быў вельмі высокі, на яго шапцы віднелі чэрап з галёначнымі косткамі. Мне здавалася тады, што ён велікан — пачвара, якая хапае дзяцей... Цёця Яся падбегла да мяне, узяла на рукі, занесла дахаты, паклала ў ложак і доўга плакала...*

Вартасць тома праяўляецца ў разнавідных, шчаслівых і трагічных вобразах, спісаных з жыцця. Вершы сыграныя з духам фатаграфій Віктара Волкава, які як ніхто ўмеў адчытаць настрой і чароўнасць прыроды. А Збышак Насядка, як добры дух і верны сябра траперскіх падарожжаў, ішоў побач, напяваючы ў духу песні, якія пасля сталі вершамі...

У ходзе прэзентацыі быў паказаны фільм Бажэны Бэднарэк «На пачатку быў гук і спеў. Збігнеў Насядка і Слопеўне».

Амаль усе ўдзельнікі прамоцыі купілі кніжку і папрасілі аўтограф у аўтара. Чарга да яго століка цягнулася як рака...

Віншуем нашага сябру з выхадам кніжкі і незвычайнай падзеяй! Каб Табе вандравалася і спявалася ўсюды, дзе не пойдзеш...

* * *

Збігнеў Насядка нарадзіўся ў Навагрудзе над Нарвай 14 студзеня 1937 года. Паходзіць са старадаўняга роду курпёўскіх бортнікаў. Па адукацыі ён ветэрынар і журналіст. З 1964 года жыве ў Беластоку. Працаваў, між іншым, у штодзённіку „Gazeta Białostocka" і штомесячніку „Kontrasty". У 1998 годзе, як саліст традыцыйнага спеву, стаў лаўрэатам Агульнапольскага конкурсу капэлаў і народных спевакоў у Казімежы. Спявае беларускія, украінскія, рускія і палескія песні. Лаўрэат многіх паэтычных конкурсаў. Жанаты з беларускай Тамарай, дзеда дзвюх унучак Зосі і Юлі. Сябра Сакрата Яновіча, Збігнева Рэдлінскага, Ады Чачугі, Віктара Шведа і цяперашніх журналістаў «Нівы». Заўсёды на Каляды наведвае нас з калядкай.

Ганна КАНДРАЦЮК



Фота Улі Шубзды



Фота Ганны Кандрацюк

# У ХХ стагоддзі ў Шарнях

Жыццё прамінае незаўважна, — сцвярджаюць пажылыя людзі. Значыць, праходзіць вельмі хутка, пакуль аглянемся, а ўжо ў спелым узросце...

Жыццё нясе пастаянныя змены. Асабліва ХХ стагоддзе паскорыла ў выніку цывілізацыйнага прагрэсу ад паравага рухавіка да палётаў на Месяц. Некаторыя вучоныя мяркуюць, што ў такім прагрэсе людзям на Зямлі дапамагае нейкая вонкавая касмічная цывілізацыя.

Я ў сваіх допісах апісваў жыццё ў сваёй Арлянскай гміне ў цэлым мінулым стагоддзі. Цяпер коратка хачу прадставіць маладым чытачам паўсядзённае жыццё ў вёсцы Шарні каля Орлі ў першых дэкадах ХХ стагоддзя і ў пасляваенных гадах. Мінулае стагоддзе поўнае было жахлівых падзей — Першая і Другая сусветныя войны, а ў нас — бежанства 1915 года. Бадзянне, голад, холад, смерць сямейнікаў, страта маёмасці, нізкі ўзровень жыцця ды таксама нейкая дыскрымінацыя праваслаўнага насельніцтва.

У Шарнях у канцы лістапада 2017 года пражывала 91 асоба, у пачатку 1997 года — 165 жыхароў, у 1946 годзе — 221, у 1923 годзе — 170, а ў 1915 аж 250 чалавек.

## У бежанства

Як расказваў мне ў 1998 годзе спадар Сцяпан Куколка (25.12.1911—4.09.2001), калі набліжалася Першая сусветная вайна, у выніку царскай агітацыі ў царкве ў бежанства ў жніўні 1915 года падалася цэлая вёска Шарні. У вёсцы астаўся дзедаў брат Нікан Куколка. Вядома, што частка жыхароў Шарнёў, у тым сем'і Тараса Куколкі ды Лявона Таранты пасяліліся ў Саратаўскай губерні, далёка за Масквой. Жылося цяжка, а пасля рэвалюцыі настаў голад і цяжкі час. Бежанцам удалося выехаць толькі ў 1921 годзе. Падалі ім таварны вагон і ў лістападзе былі ўжо ў Шарнях.

## Пасля вяртання

Вёску Шарні цяжка было пазнаць. Усё зарасло, не было відаць платоў, на вясковай дарозе выраслі дрэвы і кусты. Вёска не была спалена, але лепшыя будынкі былі расхоплены яўрэямі, якія ў бежанства не падаліся. Людзям зноў было вельмі цяжка, не хапала хлеба, не было вопраткі і абутку, трэба было хадзіць басанож.

## Пад акупацыяй

Паводле ўспамінаў Сцяпана Куколкі саветы, наводзячы свае парадкі, планавалі саслаць у Сібір дзясятку найлепшых гаспадароў, але не паспелі; вывезлі толькі сям'ю Мікалая Рыдза.

Пры немцах у 1944 годзе гітлераўцы спалілі палову вёскі — з аднаго боку вуліцы. Восем гадоў пазней, якраз у жніво 1952 года, з-за неасцярожнасці дзяцей або ад недакурка зноў успыхнуў пажар, гэтым разам з боку калёніі. Цягам сарака мінут згарэла палова вёскі.

Жыццё і побыт ды тэхнічны і цывілізацыйны прагрэс спараджалі развіццё канкрэтных рамёстваў, якія з часам, аднак, аджывалі. Кожнае дзесяцігоддзе прыносіла заўважныя змены. У міжваенны перыяд каштоўнай і ўнікальнай прафесіяй быў каменшчык. Сцяпан Куколка, апрача апрацоўкі зямлі, разам са шваграм Янам Шэршанем працаваў пры расколцы палявых валуноў. Бывала, што на фундамент пад хату хапала аднаго валуна. Варта прыгадаць, што колішнія вялікія жорнавыя камяні для ветракоў і меншыя для ручных жорнаў ды каменныя падмуркі выраблялі у Крывятычах майстар Журавель. Мой размоўца, тады 87-гадовы Сцяпан Куколка, сцвярджаў: «Жыццё, хаця вельмі складанае, плыве вельмі хутка».

## Пасля Другой сусветнай вайны

А так успамінала ў жніўні 1996 года Вольга Казлоўская (5.04.1922—4.10.2008) з Міклашоў, родам з Шарнёў.

Складана расказаць, як было — як зганеш, то здаецца, што гэта сон. Але тыя людзі што рабілі, то яшчэ на свеце жывуць (расказ з 1996 года), толькі іх ужо мала. Калісь былі спецыялісты, стaляры-калаўротнікі. Сёння ўжо ніхто тым не займаецца, бо можна купіць. А калісь, калі сама не ўмела зрабіць палатна на сарочку, то была бяда. Вельмі заводзілася жыцьца, такое зелле. Цяпер ёсць сродкі, а тады трэба было рукамі палоць. Тыдні праводзілі каля льну, каб чысты быў. Каля Сплення лён даспяваў у полі. Рвалі рукамі, вязалі, звозілі жалезнякамі — вазамі на драўляных колах — дадому. Білі па ім прачамі на таку, а пасля мачылі або клалі на траву на чатыры тыдні — каб валакно адстала ад кароcты. Пасля збіралі, сушылі і цэрлі на церніцы-ламачцы з адным або двума язычкамі. Пасля тралі лён трапачкай, часалі на адмысловых грабянях і шчотках. А на канец — на шчотцы са свіной шэрсці і тады лён атрымліваўся далікатны. Пачасаны лён пралі на калаўротках.

## Прыходзілі да нас з кудзеляй

Зімою, днямі і вечарамі старэйшыя жанчыны ладзілі пакудзелле — збіраліся ў адну хату з калаўроткамі і пралі, спявалі, расказвалі, даказвалі, жартавалі. Пры адной нафтавай лямпе прала дванаццаць пакудзельніц. Калі б цяпер запаліць такую лямпу, то нічога не ўбачылі бы; а тады ўсе бачылі, і пралі, і было добра.

Цяпер хаты вялікія, а калісь, калі ў лютым-сакавіку паставілі ў кухні кросны, то ў хату цяжка было ўвайсці, не хапала месца. Спрадзены лён снавалі на сноўніцы, закладалі на кросны і ткалі палатно. Пакуль палатно дойдзе да рук, называлі яго сарочкай, бо каб яго атрымаць, трэба было сорак або і больш дзён апрацоўваць лён.

Каб вытканае палатно не было сівае, то яго падбельвалі — у мароз кідалі яго на плот, каб вымерзла. Калі ўжо падбялілася, то лягчэй было яго далей бяліць. Такое палатно высцілалі на лугах, каб сонца выпаліла. А як таго было мала, то яшчэ калацілі ў драўлянным попеле, які выядаў шэрасць, і клалі ў печ. Так дабельвалі да беленькага колеру.

На вёсцы было прынята, што калі дзяўчына дарастала, то мусіла мець ільняны ручнік у пасаг. Ручнікамі прыбіралі сцены, вешалі ў кутах пад іконамі.

Вышывалі крыжыкамі або мушкамі (большымі крыжыкамі), або гладдзю. Кашулі таксама вышывалі — стойкі на шыі, манжэты на рукавах і гузікі.

Цяпер (у 1990-х гадах) згадваць пра ўсё тое аж страшна, але людзі мелі для таго спрыт, прывыклі, рабілі, стараліся. Тады так было — адно вочы расплюшчыш — ужо прадуць. Напрадуць — трэба выткаць, наткуць — трэба біліць. Цяпер маладыя на вёсцы не бачаць ні лёну, ні жніва. А тады хапала работы, але людзі прывыклі і было добра.

Міхал МІНЦЭВІЧ

## Прывабнасць драўляных хат

Люблю прыгожыя драўляныя вясковыя хаты ў засені высокіх дрэў. Яны найбольш прыязныя для чалавека. У такім доме я нарадзіўся і зараз у ім жыву. Наракўшчынаў Гайнаўскім павеце драўлянымі хатамі багатая. 12 лютага гэтага года паехаў я на ровары ў беларускія прыпушчанскія вёсачкі ў Падляўкова і ў Сушчы Барок (тут Белавежская пушча).

У Падляўкове на левым беразе ракі Нараўкі дзевяць абжытых драўляных дамоў і два старыя-старыя, даўно апусцелыя, счарнелыя ды вельмі сумныя, як у нас гавораць, яны надаюцца толькі на знос або на дровы. Сярод драўляных збудаванняў найпрыгажэйшыя дамы Сухадолаў — Уладзіміра (будынак здалёк кідаецца ў вочы), Аляксея і Мікалая. У Мікалая Сухадолы дом ашаляваны, з прыгожым ганачкам ад вуліцы. Некаторыя дамы памаляваныя ў белы, ясна-сіні, аранжавы або жоўты колер. Усе абгароджаныя платамі. Пару гадоў таму драўляны дом купіла, адрамантавала яго і паставіла салідны плот жыхарка Варшавы. Яна прыязджае ў Падляўкова ў цёплыя поры года — ад мая да верасня. Тады тут вельмі прыгожа — прырода ў росквіце, усюды спеў, гоман, рух. У маі вечарамі чуваць нязмоўчны салаўіны спеў у кустах над ракою. У Варшаве такога чагосьці няма.

Падляўкова — вёсачка на скрыжаванні асфальтавых дарог у Новае Ляўкова, Ахрымы, Бярнацкі Мост і Нараўку. Налічвае яна 32 жыхары. Сяло прыгожа распалажанае: да яго з аднаго боку падступаюць надрэчныя лугі і сенажаці, з другога — Белавежская пушча. У сяле пераважаюць драўляныя дамы. Мураваных няшмат — усяго чатыры. Іх пабудавалі тыя, хто працаваў на ляўкоўскай керамічнай фабрыцы.

У Сушчым Барку, вёсачцы распалажанай паабапал нядаўна пабудаванай асфальтавай дарогі, якая вядзе з Падляўкова ў Мінкоўку і далей у Нараўку, пражывае 16 чалавек. Тут сем драўляных хат, заселеная стылёвая драўляная г.зв. кашарка каля высокага пераезда цераз чыгуначны пуць ды адзін мураваны дом і побач яго вялікі мураваны будынак тартака. Прыгожыя драўляныя дамы маюць Альжбета і Яўген Сухадолы ды Уладыслаў Грыка, які займаецца агратурызмам, пячэ смачны хлеб з жытняй мукі і на г.зв. рошчыне ды гадуе пародзістых авечак. У Сушчым Барку драўляны дом купілі і вельмі прыгожа адрамантавалі варшавякі.

Гэтая ціхая і спакойная вёсачка над ракою Нараўкай зараз у прыгожым зімовым антуражы. Яна складаецца з двух крыху аддаленых ад сябе частак, якія раздзяляе дрыгвяное балота і вербалознае кустоўе на ім. Тут водзяцца вялікія і малыя вадзяныя і балотныя птушкі. Палюбілі гэтае месца буслы. Першая частка сяла знаходзіцца пры самым вялікім старым лесе, другая — побач чыгункі з Гайнаўкі ў Цісоўку.

Янка ЦЕЛУШЭЦКІ

# Неспакойны свет

З неспакоем гляджу на сучасны свет, а асабліва на Еўропу, якую заліваe хваля бежанцаў з Блізкага Усходу. Менавіта ў сваёй працы маю кантакт з шафёрамі з Украіны і Азербайджана. Запытаў я пра трывожную сітуацыю менавіта шафёра з Азербайджана, мусульманіна, жыхара гарачага Баку. «Гэты час прыйшоў», — таямніча сказаў мне Заур.

Прачытаў я кнігу Марціна Капараса «Голад», у якой аўтар піша, што ў Афрыцы галадае больш за 500 мільёнаў чалавек. Другіх 500 мільёнаў галадае ў Індыі — краіне, якая займае 10 месца сярод самых багатых краін свету. Голад, а таксама войны ў Сірыі і на Блізкім Усходзе прымушаюць уцякаць на захад Еўропы. Таксама пра бежанцаў піша ў новай кнізе «Raport z Północy» папулярны польскі пісьменнік Анджэй Пілiпюк. З захапленнем апісвае ён свае падарожжы ў Швецыю і Нарвегію, падкрэслівае, што карэнныя жыхары гэтых краін вельмі спакойны народ, прыхільна настаўлены да чужых.

Яшчэ ў 1980-я гады скандынаўскія краіны прынялі шмат мусульман і ўжо тады паявіліся забойствы, гвалты на жанчынах і дзецях. Сучасныя бежанцы не дурныя. У час паўсюднасці мас-медыяў ведаюць як жывуць жыхары Еўропы і менавіта новай айчынай выбіраюць краіны заходняй Еўропы, у якіх вельмі высокая сацыяльная абароненасць грамадзян і вышэйшы стандарт жыцця. Да 2025 года ў Еўропу прыйдзе 600 мільёнаў мусульман. Менавіта ў Еўропе папулярнымі становяцца неафашысцкія групоўкі і, магчыма, калі партыі правых нацыяналістаў дойдуць да ўлады, у краінах Еўропы ўзнікне канфлікт, а мо нават вайна за тэрыторыю. Вядома, што Еўропа гэта кантынент старажылаў, а ў Еўропу наплывае паток маладых мужчын, гатовых да вайны, тэрактаў і г.д. Зараз Англія, Францыя, Швецыя, Нарвегія маюць сур'ёзныя праблемы, таму што далі мусульманам жыллё і багатую сацыяльную дапамогу.

Усё ідзе да вайны. Многія кажуць, што трэцяя сусветная пачалася 11 верасня 2001 года з тэракта ў ЗША, калі самалёты ўрэзаліся ў «World Trade Center». Менавіта ЗША вінаватыя войнам на Блізкім Усходзе, дзе здаўна войны вядуцца ўжо бeз кантролю. Войны ідуць за нафту, якая штораз даражэйшыя. ЗША таксама кантралююць 70 працэнтаў сусветнага спажывецкага рынку. Менавіта ўсё ідзе да вайны, якая раней ці пазней будзе на цэлым свеце, які ўзбройваецца. А Італія і Грэцыя навучыліся зарабляць на бежанцах з Усходу. Там паўстаюць гатэлі і працоўныя лагеры для бежанцаў.

Юрка БУЙНЮК

*Андрэй САМАСЕЙ*

## Дарагая „Ніва"

Хачу сказаць я вам найперш,
Што мой старэнькі як я верш,
Чамусь заблытаўся ў „Дэбют".
Знайшлі развязку знаткі тут.

Камісія ад зместу спраў —
Хтось вылучэнне атрымаў.
І напісала дабратліва
Аб шоўмене шчаслівым „Ніва".

А гэта ж быў, сцвярджаю шчыра,
У „Ніве" мой дэбют сатыры.
Так адраджаецца з надзеяй
Арцель Андрэя Самасея.



Ганна Кандрацюк (zorka@niva.bialystok.pl)
www.e-zorka.pl

# зорка
для дзяцей і моладзі

# Юбілейная, беларуская дыктоўка ў Беластоку!

— Дзеці пытаюць у верасні ўжо пра дыктоўку, — кажа настаўніца Юліта Сушч. — Нікога не трэба намаўляць, заахвочваць...

Спадарыня Юліта выкладае ў малодшых класах. У іх школе да нацыянальнай дыктоўкі прыступаюць ужо з чацвёртага класа. Пра тое, што конкурс важны і прэстыжны, дзеці ведаюць ад старэйшых сяброў. Для многіх гэта шанц практыкавацца перад прадметным конкурсам, у якім удзельнічаюць таксама чацвёртакласнікі.

У праваслаўнай школе пішуць нацыянальную дыктоўку з 2013 года. Цягам пяці гадоў конкурс набыў міжшкольны ранг. Ужо трэці год запар рады грамацееў папаўняе моладзь з беластоцкай гімназіі № 7 і вучні з Нарвы. Разам пішуць дыктоўку, а пасля выступаюць з мастацкімі сцэнкамі, сустракаюцца з літаратарамі і танчаць на школьнай дыскатэцы.



Гімназія піша дыктоўку

Як штогод вучні былі падзелены на дзве групы. Малодшыя сябры мелі за задачу напісаць фрагмент прозы Івана Шамякіна «Прыход вясны». У гэтай групе дыктоўку чытаў старшыня БГКТ Ян Сычэўскі. Яго намеснік, д-р Васіль Сегень, працаваў са старэйшай моладдзю. Ён прачытаў фрагмент юбілейнай адозвы прэзідэнт Івонкі Сурвілы з нагоды 100-годдзя БНР. Гэты матэрыял настаўніца і заадно галоўны мадэратар свята, Людміла Сегень, знайшла ў «Ніве».

Дзякуючы адмысловай падборцы, вучні бліжэй пазнаёміліся са славутай гадавінай. Увесь дзень не пакідала іх радасць і бадзёрасць. З дыктоўкай справіліся цягам няпоўнай школьнай гадзіны, ды пакідалі залу з усмешкай на твары:

— Толькі ў адным выпадку ў мяне былі сумненні, — прызнаецца Клаўдзія, — ці слова *«ва ўмовах»* пішацца разам ці асобна.

— Я напісала раздзельна, — кажа Зося.

— А я ....хіба разам... — хвалюецца Клаўдзія.

Дыктоўку пісала больш за пяцьдзясят вучняў, таму немагчыма ўсіх запамятаць і назваць па імені.

Праваслаўная школа ў Беластоку, калі ідзе пра развіццё, адна з найбольш дынамічных адукацыйных устаноў Беластока. Тут 176 навучэнцаў, пры тым 80 адсоткаў добраахвотна вывучаюць беларускую мову. З верасня, як паведаміла нас дырэктар Лена Лаўнічук, школа перакрочыць новы этап. У будынку пачнуць працаваць два першыя класы ліцэя — са спецыяльнасцю па інфарматыцы і медыцынскай дапамозе. Настаўнікі разлічваюць, што прыйдуць да іх вучні з іншых школ і гарадоў. За гады існавання школа прыдбала добрую славу і прыхільнасць у рэгіёне. Вось ужо чарговы год на «Беларускую дыктоўку» прыязджаюць вучні з Нарвы.



Іван Карсунскі
Людміла Сегень,
Марына Місеюк



Выступае Нарва

— У гэты раз прыехала 17 вучняў, — кажа Ніна Абрамюк. — Разам напішам дыктоўку і пакажам дзве тэатральныя пастаноўкі: «Інтэрв'ю з бабуляй з нагоды яе 100-годдзя» і «Як Яшка стаў чалавекам». Нас тут заўсёды цёпла сустракаюць, — дадае настаўніца, — усе, дзеці і бацькі, задаволены. Гэта штуршок, каб старанна вучыцца беларускай мове. Малодшыя дзеці прыходзяць і пытаюць: «А ці можна паехаць у Беласток?»

Нацыянальную дыктоўку арганізавалі тут 16 лютага, ды свята «Роднай мовы» спалучылі з карнавалам. Вучні пад кірункам Людмілы Сегень падрыхтавалі багатую мастацкую праграму. Дзеткі спявалі, дэкламавалі, разгадвалі загадкі і ставілі п'есы. Разам былі падведзены вынікі мастацкага конкурсу і супольныя танцы.

Мерапрыемства цудоўна павялі шасцікласнікі: Марына Місеюк і Іван Карсунскі. Перад публікай выступіла таксама Міра Лукша з новымі вершамі і галоўны рэдактар «Нівы» Яўген Вапа з кніжнымі падарункамі. Як кожны год наша рэдакцыя назначыла прызы пераможцам дыктоўкі — гадавую падпіску «Нівы». Пакуль чакаем вынікаў і таму прозвішчы пераможцаў напішам у чарговых нумарах «Зоркі».

Тэкст і фота:
**Ганны Кандрацюк**

**Рыгор Барадулін**

## Азбука. Вясёлы вулей

* * *

Д зрабілася, што кадка.
Трэба, трэба фіззарадка!
Падагнуўшы смешна ногі,
прысядае да падлогі.

Дрэсіруюць доўга дога.
Дабяжыць дамоў дарога.
Дзяцел дзюбай дуб дзяўбе,
Будзе Дж і Дз табе.

* * *

Вецер джгае па дажджы,
просіць бляху: не бразджы!
Да жніва серп загадзя куй!
Добрай нашай мове дзякуй!

Прачытай і раскумекай:
з дзядзькам дзекай,
з цёткай цекай.

# Неверагодныя здарэнні на неверагоднай планеце

*Маленькая дзяўчынка з блакітнымі вачыма падышла да ложка. Зірнула на вялікую падушку і без усякай ахвоты палезла пад коўдру.*

*— Зноў адправілі спаць, — прабубніла пад нос. — Адну. Шкада што бабулі побач няма, яна б казку распавяла. А то ні ў таткі, ні ў мамкі часу няма. Запрасілі б тую прыгажуню з тэлевізара да мяне, як было б весела! Яна стольki гісторый цікавых ведае, — сказала дзяўчынка, заплюшчыла вочкі і соладка пазяхнула. — Мо дрымота мяне закалыша і калыханку праспявае, а то...*

*Не паспела Волечка (так звалі малую капрызулю) выказаць сваю думку, як адчула, што хтосьці ціха апусціўся ёй на галаву. Дзяўчынка высунула з-пад коўдры руку і, баючыся, дакранулася пальчыкамі да кагосьці і ледзь чутна спытала:*

*— А ты хто?...*

Так пачынаюцца «Неверагодныя здарэнні на неверагоднай планеце», казка-размалёўка Стася Наркевіча. Нішто ў свеце не пераб'е дзіцячых мар і фантазіі. Яны, як пакажа далейшы сюжэт казкі, павядуць нас нязведанымі шляхамі і дарожкамі ў таемныя месцы, не толькі на нашай планеце. Разам з Волечкай, якая да нядаўна здавалася звычайнай дзяўчынкай, сустрэнем зачараваных прынцаў, мудрае цуда-дрэва, паляцім на іншую планету, каб адчараваць фею Пярынку. Да зместу далучаны маляванкі мастачкі Алены Сянько.

Кніжка выдадзена ў мінскім «Кнігазборы», у падсерыі «Каляровы ровар» у 2018 годзе. Яе можна выйграць у зорчыных конкурсах.

**Зорка**

Беларуская дыктоўка ў Беластоку

(Байкі сярэднявечнай Арменіі)

# Жабрак і конь

Стары, галодны жабрак прыйшоў у адно сяло за міласцінай і не дастаў ад людзей ні аднаго кусочка хлеба. А голад — не цётка! Выйшаў стары за сяло і ўбачыў каня, які належаў мясцоваму князю. Схапіў жывёлу за вуздэчку, завёў у другую вёску і прадаў яе за адзін бохан хлеба.

Навіна пра незвычайную здзелку дабегла ўжо ў тое сяло, дзе не прымалі жабрака. Дагнаў яго сам князь і пытае:

— Стары дурань! Чаму ты аддаў майго каштоўнага каня за адзін бохан хлеба?

А той паглядзеў на князя і кажа ў адказ:

— О, слаўны і вялікі князь! Не крыўдуй, не прыдзірайся да мяне і не балбачы пусцякоў. Сам Ісус Хрыстос навучаў народ такімі словамі: бярыце дарма і дарма аддавайце!

*(пераклад з рускай мовы Ганны Кандрацюк)*

## Вершы пра Беларусь!

Ніл Гілевіч

### Родны край

О мой любы родны край,
Ты — прыгожы, нібы рай.
І нідзе ў другіх краях
Шчасным быць не змог бы я.

Уладзімір Мазго

### Адкрыццё

Нарэшце
Я таксама
Убачыў
Мірскі замак,
Нясвіжскі,
Навагрудскі...
А потым —
Пояс Слуцкі.

Гляджу зачаравана:
Уся аперазана,
Нібыта паясамі,
Стагоддзяў галасамі
Любімая Айчына.
Здаецца,
За плячыма
Я адчуваю

Крылы.
А вы
Свой край
Адкрылі?

## УВАГА КОНКУРС! № 08-18

**Стаіць у лесе дрэўца,**
**пад ветрам лёгка гнецца,**
**а гронкі ягадак гараць,**
**і снегіры да іх ляцяць...**
**Хто здагадаецца,**
**Як дрэўца называецца?**
**а......**

**(Уладзімір Мацвеенка)**

**Разгадайце загадку, адказ дашліце ў „Зорку" да 4 сакавіка 2018 г., найлепш па электроннай пошце. Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.**

## Загадкі з роднай хаткі

**Адказ на загадку № 4-2018: снег. Узнагароды, кніжкі (з маляванкамі) Стася Наркевіча «Неверагодныя здарэнні на неверагоднай планеце» выйгралі Марта Петручук з Нарвы і Наталля Гайдук з ПШ № 1 у Гайнаўцы. Віншуем!**

## Польска-беларуская крыжаванка № 08-18

Запоўніце клеткі беларускімі словамі. Адказы, з наклееным кантрольным талонам, на працягу трох тыдняў дашліце ў „Зорку". Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

**Адказ на крыжаванку № 4-2018:**

Рэ, як, маг, барыш, аса, парык, на, карагод, пацалунак, музыкант, пар, ало, Ян, галаваломка. Бант, маг, эра, пуп, каза, шпацыр, арак, рала, ял, чыгун, но, конта, ляк, год, крона.

Узнагароды, аўтаручкі, выйгралі **Габрыела Красько, Пётр Вілюк** з Арэшкава, **Дам'ян Карнілюк, Раксана Бярэзняк-Леанюк, Юля Лучай, Дар'я Чарняўская** з Бельска-Падляшскага, **Караліна Кандрат, Аляксандра Каліноўская** з Нараўкі, **Магда Люнда, Матвей Зыскоўскі** з ПШ № 1 у Гайнаўцы, **Карнэлія Вшэбароўская, Аліўка Жэпка** з Нарвы. Віншуем!

Nóżka, Trawka, Narost, Ara, As, Aura, Taniec, Żuraw, Sukces, Parkan, Rumianek, Aman, Orzech, Skowronek, Rum, Kamera, Ocena, Jadło, Data, Jan

# Зімовыя канікулы ў Гайнаўскім белмузеі

**Музей і асяродак беларускай культуры ў Гайнаўцы з 22 студзеня па 2 лютага наладзіў у сваіх памяшканнях арганізаваны адпачынак гайнаўскім вучням, з якімі займалася новая бібліятэкарка белмузея Віялета Андрасюк. Вучні, якія адпачывалі ад заняткаў у школе, знаёміліся ў белмузеі з нашымі народнымі традыцыямі і беларускай культурай, але перш за ўсё добра гулялі. Віялета Андрасюк паказала дзеткам музейныя выставы і бібліятэку з вялікай колькасцю кніжак і часопісаў на беларускай мове, куды запрашаюцца вучні і дарослыя аматары цікавых беларускіх кніжак.**

## Новая бібліятэкарка ў белмузеі

— Выпускніца беларускай філалогіі Віялета Андрасюк пачала працаваць у нас бібліятэкаркай. У бібліятэцы зараз звыш 12 тысяч кніжак у асноўным на беларускай мове. Штогод атрымліваем кніжкі беларускіх аўтараў, якія жывуць тут, на Беласточчыне, а з дапамогай Пасольства Рэспублікі Беларусь у Варшаве — кніжкі, якія выдаюцца ў Беларусі. Сродкаў у нас нямнога, але штогод купляем кніжкі, якія не ў змозе атрымаць дарам. Дасылаюцца нам таксама часопісы і газеты, якія выдаюцца на польскай і беларускай мовах. Кніжкамі нашай бібліятэкі карысталіся раней вучні і дарослыя асобы. У бібліятэцы арганізуюцца сустрэчы і іншыя формы культурна-асветнай дзейнасці, — сказаў дырэктар Гайнаўскага белмузея Тамаш Ціханюк.

На паліцах бачны апошнія нумары «Нівы», «Часопіса» і перыядычныя выданні, якія дасылаюцца з Рэспублікі Беларусь. Да канца жніўня мінулага года ў белмузейнай бібліятэцы працавала Анджаліна Масальская, выпускніца Гайнаўскага белліцэя і беларускай філалогіі Варшаўскага ўніверсітэта. Старалася яна сумясціць сваю работу ў бібліятэцы з працай настаўніцы беларускай мовы ў школе ў Белавежы, а пасля пайшла ў водпуск на працы ў белмузеі.

— Я рада працы ў бібліятэцы белмузея, хаця зараз перш за ўсё займаюся арганізаваннем зімовага адпачынку гайнаўскім дзеткам. Ужо пераняла я ад Анджаліны Масальскай бібліятэку і буду працаваць тут прынамсі да канца яе водпуску. Маю намер працягваць сустрэчы ў рамках праекта «Кірыліцай пісанае», арганізуючы перш за ўсё спатканні з беларускімі пісьменнікамі, якія апошнім часам выдалі кнігі, каб пазнаёміць жыхароў Гайнаўшчыны з новымі выданнямі на беларускай мове. У нашай бібліятэцы ёсць кніжкі пра бежанства і варта было б таксама на гэту тэму пагаварыць. Ёсць у мяне таксама іншыя планы, якія спачатку хачу абмеркаваць з дырэктарам музея. Цяпер наша бібліятэка будзе адчынена ва ўсе працоўныя дні, апрача панядзелка. Таксама можна будзе пазычаць кніжкі па суботах, калі ў жыхароў Гайнаўкі выхадны дзень. У нашай бібліятэцы ёсць многа цікавых кніжак на беларускай мове для дзетак, якія варта прачытаць. Хачу вучняў, якія вучацца ў школах Гайнаўшчыны беларускай мове, запрашаць на сустрэчы ў нашу бібліятэку. Гэта будзе добрая нагода заахвоціць дзетак і моладзь пазычаць у нас кніжкі і чытаць па-беларуску, — сказала Віялета Андрасюк. — Такое спатканне я правяла з дзеткамі, якія займаюцца тут падчас зімовых канікулаў. Атрымалі яны бібліятэчныя абанементы. Запаўнялі іх і далікатна ўпрыгожвалі, каб былі яны дзеткам больш прывабнымі. Удзельнікі зімовых заняткаў у нашым музеі пазычылі ўжо першыя беларускія кніжкі дамоў. Я хачу наладзіць у бібліятэцы выставу цікавейшых кніжак для дзетак, якія адразу ўбачаць вучні, калі прыйдуць на экскурсію ў белмузей. Можа адразу захочуць узяць нейкую кніжку для чытання дома. У нашай бібліятэцы апрача беларускай літаратуры ёсць таксама цікавыя этнаграфічныя, гістарычныя кніжкі для дарослых чытачоў.



■ Дзеткі пазнаёміліся з дзейнасцю бібліятэкі, запоўнілі бібліятэчныя абанементы і атрымалі для прачытання кніжкі на беларускай мове, а бацькам занеслі дыпломы і свае мастацкія працы (справа бібліятэкарка Віялета Андрасюк)



## Вучні знаёміліся з народнымі традыцыямі

Покі бацькі, бабулі і дзядулі прыйшлі на развітальную сустрэчу, якая адбылася 2 лютага ў кіназале Гайнаўскага белмузея, іх дзеці і ўнукі доўга рыхтаваліся да выступу з лялечным спектаклем «Чырвоная Шапачка». Удзельнікі зімовага адпачынку выконвалі сваіх лялечных персанажаў, развучвалі дыялогі і рыхтавалі сцэну для выступу. Аднак у пачатку зімовых канікулаў вучні перш за ўсё хацелі пагуляць і крыху прызабыць пра вучобу ў школе. Паколькі заняткі адбываліся перш за ўсё ў вялікай кіназале, дзеткі маглі гуляць у гульні, якія патрабавалі больш руху і маглі глядзець фільмы, што прэзентаваліся ў вялікім фармаце.

— Мы з дзеткамі засяродзіліся на гульнях, якія яшчэ памятаюць з дзяцінства іх мамы. Яны спадабаліся маладым удзельнікам заняткаў у белмузеі. У нас была сустрэча з паліцыянткай наконт бяспечнага карыстання інтэрнэтам і бяспечнага адпачынку ў час зімовых канікулаў. Калі мы займаліся ў памяшканні, дзе арганізуюцца канцэрты «Музыка без засцярог», дзеткам цікава было гуляць у хованкі і займацца іншымі прыдуманымі імі гульнямі. Мне многа дапамагала найстарэйшая ўдзельніца нашых заняткаў Марыя Ціханюк, — распавяла Віялета Андрасюк. — З паасобнымі словамі мясцовага дыялекту мы знаёміліся падчас наведвання музейных экспазіцый. Гэта былі перш за ўсё назвы вырабаў і заняткаў народнага рамяства і рукадзелля. Вучні распытвалі, што рабілася паасобнымі прыладамі працы і як выконваліся рукадзельныя вырабы.

Удзельнікам адпачынку ў белмузеі вельмі спадабаліся гульні ў Цэнтры гульняў для дзетак «Гуля-куля», які арандуе памяшканні ў Гайнаўскім белмузеі. Там была магчымасць вельмі актыўна пагуляць.

— Мы тут на рысунках паказваем усё, чым займаліся ў музеі і кожны з нас нешта тут дарысоўвае. Нам асабліва падабаюцца творчыя заняткі, калі мы можам праяўляць сваю ініцыятыву, — заявілі Марыя Ціханюк і Зося Варанецкая.

Агаце Сегень асабліва спадабалася гульня ў павука. Уля Такаюк не магла дачакацца заняткаў у Цэнтры гульняў «Гуля-куля», Оля і Міхаліна Андрасюк асабліва былі рады гульням, падчас якіх трэба было хутка і спрытна перамяшчацца, а Гані Ціханюк спадабалася выкананне вітражоў.

— Мне на выставах у музеі спадабаліся прылады працы, якімі выконваліся ў мінулым розныя прадметы. Мы бачылі, як каваль рабіў падковы для каня, іншыя вырабы і паглядзелі, якімі прыладамі выконваліся ў мінулым вырабы з драўніны. Мы ўбачылі, як на кроснах ткаліся палавікі і тканіны. Пасля мы самі выконвалі рознакаляровыя палавікі з тонкай паперы. Вырэзвалі мы і наклейвалі на паперу або рысавалі ўзоры, якія бачылі на выставе. Нам цікава было паглядзець вялікага каня і воз з драўлянымі калёсамі, а пра ўсё гэта цікава распавяла нам пані Віялета, — сказала Анна Мароз. — Спадабаліся нам таксама велізарныя фатаграфіі на іншай выставе. Прыгожы быў там здымак царквы, асветленай сонцам. Мы ўбачылі велізарных зуброў, ласёў і іншую лясную звярыну на фатаграфіях.

— Цікавымі былі нам мультыплікацыйныя фільмы, якія прэзентаваліся на вялікім экране. Штодзень прыносілі нам салодкія вырабы. Мы вельмі любілі гуляць у хованкі, павука і гусей. Наша пані Віялета прапанавала нам цікавыя мастацкія працы і гульні. Мы радасна праводзілі ў музеі час. Многа часу заняла нам падрыхтоўка да прадстаўлення перад бацькамі і бабулямі, — гаварылі адзін за другім удзельнікі зімовага адпачынку.

Агнешка Ціханюк заявіла, што яе дочкі асабліва рады заняткам у музеі, дзе знаёмяцца з новымі словамі на беларускай мове і традыцыямі мясцовага рукадзелля, напрыклад выконваючы мастацкія працы з народнымі матывамі.

— Я рада тым, што тут робяць мае сын Міколка і дачка Аліўка, якія вельмі актыўна праводзяць тут час. Пазнаёміліся яны з нашымі традыцыямі, якія прэзентуюцца тут на выставах і якім вучацца тут у час заняткаў. Мікола крыху размаўляе на нашай дыялектнай мове, а тут на занятках такая атмасфера як у нашых сем'ях, — заявіла Кацярына Аксэнтовіч.

— Мы тут вучыліся гуляць у тэатр. Я старалася, каб дзеткі самастойна выконвалі сваіх персанажаў з казкі пра Чырвоную Шапачку і самастойна выконвалі іншыя мастацкія працы, якія вучні пасля ўзялі дамоў, каб паказаць бацькам. Я хацела, каб дзеткі пазнаёміліся з матывамі вышываных ручнікоў, пакрывалаў і яны гэтыя дэталі адлюстроўвалі на сваіх працах. Мы тут выконвалі выцінанкі, якімі ў мінулым нашы продкі ўпрыгожвалі хаты па вёсках, — заявіла спадарыня Андрасюк, якой сын Караль таксама прымаў удзел у белмузейных занятках і быў рады гульням з іншымі дзеткамі.

На развітальную сустрэчу прыйшлі перш за ўсё бабулі і дзядулі дзетак, паколькі бацькі былі на рабоце. Аднак прыбыло крыху бацькоў, якім асабліва цікава было паглядзець прадстаўленне, падрыхтаванае іх дзеткамі. Трымаючы ў руках сваіх персанажаў з казкі «Чырвоная Шапачка» дзеткі адважна і эмацыйна запрэзэнтавалі сваё прадстаўленне, за што атрымалі многа воплескаў. Ад сваёй пані Віялеты ўдзельнікі зімовых сустрэч атрымалі дыпломы, ласункі і маглі ўзяць дамоў лялечных персанажаў прадстаўлення.

— Калі Гарадская ўправа аб'явіла конкурс на арганізаванне заняткаў падчас зімовых канікулаў, мы прыступілі да яго і, карыстаючыся гарадскімі сродкамі, наладзілі заняткі з ухілам на нашы беларускія традыцыі і культуру, якія вяла наша бібліятэкарка Віялета Андрасюк. Канешне, былі яны адкрыты таксама на прыезджых дзетак, якія прыбываюць з іншых гарадоў на зімовы адпачынак да сваіх бабуль у Гайнаўку. Мы рады, што Пякарня Падальшынскіх кожнага дня дарыла нашым дзеткам салодкі пачастунак, — удакладніў дырэктар белмузея Тамаш Ціханюк.

Віялета Андрасюк заявіла, што ў час зімовага адпачынку ў белмузеі займаліся 21 асоба ва ўзросце ад 6 да 12 гадоў. Дзеткам так спадабаліся заняткі ў Гайнаўскім белмузі, што пыталі, ці падобныя заняткі адбудуцца ў час летніх канікулаў. Бацькі падчас развітальнага спаткання таксама паставілі такое пытанне. Дырэктар Тамаш Ціханюк сказаў, што ў час летніх канікулаў белмузей арганізуе многа мерапрыемстваў, але будзе браць пад увагу магчымасць арганізавання адпачынку для дзетак з ухілам на народныя традыцыі і беларускую культуру, калі будзе абвешчаны конкурс на летні адпачынак.

Тэкст і фота
**Аляксея МАРОЗА**



**Вера РАДЗІВАНЮК**
*Міхнаўка*

## Пажаданні на Новы год

З Новым годам паздраўляю
І здароўя ўсім жадаю
Тым, што пішуць на нашай ніве,
Каб былі яны шчаслівы,
Каб больш гумару пісалі
Чытачоў развесялялі.
Тым, што правяць
Нашым краем,
Каб Бог розуму дадаў,
Каб правілі справядліва,
Не рабілі ў Сейме кіна,
Гарадам парадак, лад,
Хлебаробам меншых страт,
Каб ім жыта расавала,
Хлеба нам не бракавала.
Хто ў хляве штосьці гадуе —
Няхай яму пашанцуе,
Каб каровы ім вяліся,
Другім курачкі несліся,
Парсючкоў многа ў хляве,
Хлеб і сала на стале,
Хай заўсёды будзе скварка,
Калі трэба, то і чарка.
І каб людзі на Зямлі
Больш не бачылі вайны.

## Сіроцкая доля

Белая каліна
У лузе расцвітае,
Маладой дзяўчыне
Слёзы наганяе.
Плакала дзяўчына
Аб няшчаснай долі,
Бо шчасця яна
Не знала ніколі.
Сіроцкая доля,
Што яе спаткала,
То дабра і ласкі
Яна не спазнала.
Стаяла дзяўчына
Ціха пад калінай.
З сумнымі вачамі
Галаву схіліла.
Вецярок вясенні
Шалясцеў у каліне
Здавалася, штосьці
Гаварыў дзяўчыне:
— Ты й шчэ маладая,
І шчасце тваё
Ужо цябе чакае.

## Бярозы

Мае белыя бярозкі
Ужо зазелянелі,
На іх свежая ліства
Запахла вясною.
А я думаю аб тым,
Што люблю бярозкі
За іх белыя ствалы,
За ўбор зялёны.
Помню моладасць сваю,
Калі сумна мне было,
Ішла я да бярозкі
Так як да сяброўкі.
Абніму бярозку я,
Ціха запытаю,
Чаму сумна сёння мне,
Ці бярозка знае.
Калі было весяло,
З бярозкай дружыла,
Свае радасці і сум
Дрэву гаварыла.
І цяпер я падыду
Да белай бярозы,
Раскажу я для яе
Пра старасць і слёзы...

## Лета

Вясна адшумела,
Наступіла лета.
Шуміць у полі жыта,
Сонейкам сагрэта.
Даспявае колас,
На шырокім полі
Залатыя хвалі
Вецярочак гоніць.
Васілёчкі сіні
У жыце зацвітаюць
І ад прыгажосці
Сэрца заміраe.
Але хутка ў поле
Выведуць машыны,
Будуць касіць жыта
На шырокай ніве.
Хутка скосяць збожжа,
Бо камбайн — не серпік,
І не трэба гнуцца,
Як калісьці жалі,
Каласкі збіралі,
Каб зерне не прапала,
Бо казалі грэх
Каласкі аставіць.

## Грыбы

Хлопец ехаў на машыне
Спраўна малады.
Ішла дарогаю дзяўчына,
Несла ў кошыку грыбы.
Хлопец стаў і запытаўся:
— Дзе ж ты іх набрала?
А дзяўчына засмяялась:
— У лесе назбірала!
Запытаўся ці далёка
Дзяўчыне ісці,
Кошык цяжкі із грыбамі
Дадому нясці.
А дзяўчына адказала:
— Я прывыкшая хадзіць,
Яшчэ большыя цяжары
Мне прыходзіцца насіць.
Завязалася размова
Дзяўчыны і хлопца.
Запытаўся, ці пазнала:
— Мы ж з табой знаёмы.
Памятаеш ты вяселле
Дзе разам гулялі? —
Запытаўся хлопец.
— Помню, — адказала:
— Сядай цяпер у машыну,
Адвязу дадому...
Не адкажа ж прыгажуня
Хлопцу маладому!






**Валянціна МЯДЗВЕДЗЬ**
*Беласток*

## Цвітуць каліны

Цвітуць бела каліны,
зацвілі і рабіны.
А ты мне абяцаў
усё верну любоў.

Я хадзіла, стаяла,
пад рабінай чакала,
калі ты падаруеш
сваю мне любоў.

А рабіна шумела,
усё сказаць мне хацела,
кветкі белы спадалі
на зялёну траву.

А яна гаварыла,
каб цябе я забыла,
бо з другою дзяўчынай
ты гуляці пайшоў.

Я яго ўспамінала
і нагамі таптала
кветкі белы рабіны,
сяброўкі маёй.

Паглядзі ты, мой мілы,
гараць ужо ў полі рабіны,
а ты ўсё ж да мяне
не прыйшоў.

Ты мяне забываеш,
а другую ласкаеш.
А мне толькі абманна
абяцаеш любоў.

## Праўда

Праўду сёння не ўсе любяць,
праўда згінула ў нас.
Праўду з сэрцаў вырываюць,
людзі праўду забываюць,
яе падманам заступаюць!
Праўда вачэй не падносіць.
Падман сваё жніва косіць.
І так заўжды і зусім
падман слухаем адзін.
А ён нам бяжыць напроціў
і смяецца проста ў вочы.
Падман, зайздрасць і нахабства,
і абрыдлівае хамства
перад добрымі людзьмі.
Праўда сёння ніц нyварта,
плача горкімі слязьмі!..

## Маладосць

Ты скажы мне, вада,
быстрая вада,
дзе загінула прыгожая
маладасць мая?
Ці ў лесе за ракою?
Ці ў полі пад вярбою?..

Пакланюся я вярбе:
вярні маладасць ты мне!
Запытаю і ваду,
ці там маладасць знайду.
І так буду ўсіх пытаць,
дзе мне маладасць шукаць.

А маладасць у даль пайшла,
старасць кінула сюды.
І мне шэрая зязюля
лічыць хуценька гады.
У ліках я збілася,
гады мне пагубіліся,
і цяпер не знаю я,
ці старая я,
ці йшчэ маладая...

Ці смяяцца, ці смуціцца?
Можа, крышку пахмяліцца?..

Трэба з усім тут пагадзіцца...

## Гара Грабарка

Што ты цудоўная гара, гара Грабарка,
усе людзі знаюць ад вякоў:
што ісцаляеш і дапамагаеш
усім людзям сілаю сваёй святой.

Вада з малітвай усіх тут ісцаляюць,
вакол царквы крыжы стаяць кругом.
І людзі просяць, людзі Бога ўмаляюць,
каб даў здароўе родным і дабро.

Сюды паломнікі з малітваю прыходзяць,
усе яны нясуць свае крыжы.
І ўсе ўздыхаюць шчыра і ў малітве:
Госпадзі Божа, не астаў нас, нам дапамажы.

Усе ў малітве Госпада тут просяць,
каб ахіліў нас ласкаю святой.
О, Усемагутны, ласкавы наш Божа,
дай нам здароўе, радасць і любоў.

# Берасцейскія курсы «Мова Нанова» наведалі госці з Падляшша







**«Падляшша+Палессе» — сустрэча пад такой назвай прайшла 13 лютага ў Берасці. Яна была арганізаваная ў межах курсаў «Мова Нанова» і сабрала каля пяці дзясяткаў наведнікаў. У якасці гасцей выступілі журналіст тыднёвіка «Ніва» Ганна Кандрацюк-Свярубская і старшыня Беларускага саюза ў Польшчы Яўген Вапа.**

**Яўген Вапа**: — Мы прыехалі сюды, каб прэзентаваць, што зроблена журналісткай «Нівы» Ганнай Кандрацюк-Свярубскай і яе кніжку. Гэта першая прамоцыя і яна невыпадкова ў Берасці, бо гэта кніжка пра Палессе, а Берасце — гэта цэнтр рэгіёна. Я вельмі рады, што столькі асоб прыйшло на «Мову Нанова», каб паслухаць пра беларусаў Падляшша, пра беларусаў Беласточчыны, і пра вандроўку Ганны Кандрацюк па Палессі. Сустрэча для мяне вельмі файная, бо добрая атмасфера, адкрытыя людзі: пытаюць, каментуюць. І гэта не проста курсы, а жывая мова ў час сустрэчы.

**Ганна Кандрацюк**, журналістка тыднёвіка «Ніва», аўтарка кніжкі «Па Прыпяці па Нобель»: — Гэта кніга для ўсіх тых, хто любіць чытаць па-беларуску, хто любіць Палессе, хто любіць пазнаваць карані не толькі нацыянальныя, але і пачаткі чалавецтва, хто цікавіцца прыродай і ракой Прыпяць, для тых, хто цікавіцца чарамі, замовамі, песнямі, хто цікавіцца вікінгамі, яцвягамі, і перш за ўсё для тых, хто цікавіцца мудрымі лёсамі людзей.

**Максім Хлябец**, вядоўца берасцейскіх курсаў «Мова Нанова»: — Насамрэч было вельмі шмат людзей, каля 50 чалавек, і гэта вельмі крута, бо падавалася госці з Падляшша і наколькі берасцейцы, якія ездзяць у Польшчу не праз Падляшша, ведаюць, што гэта такое. Але прыйшлі людзі, якім насамрэч цікава, задавалі шмат пытанняў. Сустрэчы «Мова Нанова» ў Берасці, як і ў іншых беларускіх рэгіёнах, традыцыйныя. Яны ладзяцца раз на тыдзень і збіраюць кола тых, хто імкнецца вывучыць беларускую мову.

**racyja.com**

БЕЛАРУСКАЯ ХРЫСЦІЯНСКАЯ КРАМА

Вы куплены дарагою цаною.

http://kroplia.by

Беларускамоўны бізнес пакрысе пашырае сваю прастору. Праўда, часцяком гэта адбываецца не за кошт прыходу ў бізнес новых, раней не апантаных беларускасцю прадпрымальнікаў, а за кошт адкрыцця сваіх спраў людзьмі, якія даўно займаюцца папулярызацыяй беларускасці. Напрыклад, нядаўна ў Сусветным павуцінні з'явілася інтэрнэт-крама жонкі вядомага ў Беларусі апазіцыйнага палітыка Паўла Севярынца Вольгі. Уласна Павел ёсць прыхільнікам хрысціянскай дэмакратыі, таму не дзіўна, што новая інтэрнэт-крама, якая месціцца па адрасе **http://kroplia.by**, вызначае хрысціянскі накірунак і носіць назву „Беларуская хрысціянская крама".

„Беларуская хрысціянская крама" — гэта крыніца сэнсоўных рэчаў. Мы стварылі асаблівае месца, дзе Вы можаце знайсці беларускія хрысціянскія кнігі, музыку і сувеніры. Мы спадзяемся, што праз гэтыя рэчы Госпад зможа прыходзіць не толькі ў Ваша жыццё, але і ў жыццё людзей вакол Вас. «Беларуская хрысціянская крама» існуе дзеля падтрымкі хрысціянскага інфармацыйнага партала «Крыніца.інфо». Набываючы штосьці ў нас, Вы адначасова падтрымліваеце беларускія хрысціянскія СМІ", — распавядаецца на галоўнай старонцы сайта.

Акрамя фотаздымкаў розных тавараў, сярод якіх завушніцы, нататнікі, цішоткі, кубкі, уладальнікі інтэрнэт-крамы размясцілі таксама навіны, датычныя як падобнага бізнесу, так і хрысціянскай дэмакратыі. Напрыклад, крама шукае рамеснікаў, мастакоў і дызайнераў, здольных прапанаваць яскравыя і свежыя беларускія ды хрысціянскія рашэнні для цішотак, торбаў, вышыванак, завушніц, разьбы па дрэве альбо любога хэнд-мэйду.

„Найбольш цікавыя для нас майстры са сваім уласным стылем, здольныя працаваць на замову, хутка і адказна прапаноўваць варыянты дзеля вытворчасці. Найпершы давер — для беларускамоўных хрысціян усіх канфесій", — адзначаецца там і паведамляецца, што ў Мінску намечана чарговая канферэнцыя для хрысціян-прадпрымальнікаў „Рэфармацыя ў бізнесе". „Мэта канферэнцыі — духоўнае фарміраванне хрысціяніна-прадпрымальніка рознага ўзроўню і развіццё яго прафесійных якасцей у сваёй справе", — распавядаецца на сайце хрысціянскай прадпрымальніцы.

Пакуль на сайце тавараў не вельмі многа. Так, там усяго 12 кніжак, 7 кампакт-дыскаў, 8 гатункаў завушніц. Астатнія рэчы — вышыванкі, торбы, цішоткі, нататнікі, сувеніры — кожныя па 2-4 штукі. Уладальніца інтэрнэт-крамы прапануе дастаўку тавару не толькі па Беларусі, але і за яе межы. Праўда, кошт перасылкі тут будзе вызначаць пошта.

Хоць справа гандлю таварамі па-беларуску вельмі годная, улічваючы гаротны стан беларускай мовы, не ўсім нават беларускамоўным падаецца правільным называць краму хрысціянскай. Напрыклад, вядомы беларускі гісторык і краязнаўца, старшыня Беларускага добраахвотнага таварыства аховы помнікаў гісторыі і культуры Антон Астаповіч напісаў у facebook: „А кошты ў гэтай краме звычайныя. Што хрысціянскія, што іудзейсія, што мусульманскія. У атэістаў не вышэй будуць таксама. А ўвогуле, што такое хрысціянская крама? Прабачце, але лухта нейкая атрымліваецца. Прабачце, шаноўныя, але калі пайсці далей, то можна адкрыць хрысціянскі рэстаран, хрысціянскі начны клуб, хрысціянскае казіно, хрысціянскі бардэль і г.д." — выказаўся грамадскі дзеяч.

**Аляксандр ЯКІМЮК**

## Дата з Календара

### Падзеі і асобы БНР

## 21 лютага 1918 года — абвешчана Першая Устаўная грамата БНР

Першая Устаўная грамата да народаў Беларусі — юрыдычны палітычны акт, выдадзены Выканаўчым камітэтам Рады Усебеларускага з'езда 21 лютага ў Менску. Адбылася гэтая гістарычная падзея ў будынку колішняга Дома губернатара.

Імклівы наступ нямецкіх войск, які пачаўся 16 лютага 1918 года, прымусіў Абласны выканаўчы камітэт саветаў рабочых, салдацкіх і сялянскіх дэпутатаў Заходняй вобласці і фронту і Савет Народных камісараў Заходняй вобласці і фронту ў ноч на 19 лютага эвакуявацца з Менска ў Смаленск. З падполля выйшаў Выканаўчы камітэт Рады Усебеларускага з'езда, з турмы былі вызвалены дзеячы Цэнтральнай беларускай вайсковай рады. Выканкам Рады Усебеларускага з'езда сваім загадам № 1 ад 19 лютага абвясціў, што ён „узяў уладу ў свае рукі", а навядзенне парадку ў Менску, дзе пачала актыўна дзеіць Польская вайсковая арганізацыя, усклаў на каменданта горада, аднаго з кіраўнікоў ЦБВР Кастуся Езавітава.

21 лютага Выканкам Рады Усебеларускага з'езда звярнуўся да народаў Беларусі з Першай Устаўной граматай, у якой адзначалася: „Радзімая старонка наша апынулася ў новым цяжкім становішчы... Мы стаім перад тым, што край наш можа быць заняты нямецкімі войскамі". Першая Устаўная грамата заклікала беларускі народ здзейсніць свае права на „поўнае самавызначэнне", а нацыянальныя меншасці — на нацыянальна-персанальную аўтаномію. Спасылаючыся на права народаў на самавызначэнне, аўтары граматы сцвярджалі, што ўлада ў Беларусі павінна фармавацца згодна з воляю народаў, якія насяляюць краіну. Гэты прынцып мусіць ажыццяўляцца шляхам дэмакратычных выбараў ва Усебеларускі Устаноўчы Сойм.

У гэтым дакуменце Выканкам абвясціў пра стварэнне ім 20 лютага ўрада — Народнага Сакратарыята Беларусі — часовага выканаўчага органа народнай улады ў краі, які 21 лютага пачаў выкананне сваіх абавязкаў. У склад сакратарыята ўвайшлі Палута Бадунова, Язэп Варонка (старшыня), Тамаш Грыб, Кастусь Езавітаў, Васіль Захарка, Пётра Крачэўскі, Аркадзь Смоліч.

Выканаўчы камітэт Рады І Усебеларускага з'езда абвясціў сябе часовай уладай у Беларусі. У грамаце ўпершыню не згадвалася пра аўтаномію і неабходнасць заставацца ў складзе Савецкай Расеі. Яе тэкст на беларускай і расейскай мовах быў расклеены па ўсім Менску. Тэкст дакумента быў змацаваны пячаткай, пасярэдзіне якой віднела выява высокага снапа, а на яго тле перакрыжоўваюцца каса і граблі, а на абадку выгравіравана: НАРОДНЫ СЭКРЭТАРЫЯТ БЕЛАРУСІ. Арыгінал гэтага дакументальнага акта мікрафільмаваны і захоўваецца ў 325-м фондзе Нацыянальнага архіва Рэспублікі Беларусь.

З 21 лютага 1918 года ўлада ў Беларусі апынулася ў руках камандавання нямецкай арміі. 22 лютага яна загадала польскім падраздзяленням пакінуць Менск, а беларускім — скласці зброю. Каб не ўскладняць дачыненняў з Расеяй, немцы не прызналі беларускага ўрада, занялі сядзібу Народнага Сакратарыята, рэквізавалі ягоную маёмасць, скінулі з будынкаў беларускія нацыянальныя сцягі і забаранілі ўрадоўцам пакідаць горад. Аднак напрыканцы лютага дайшло да перамоў паміж Сакратарыятам і нямецкай вайсковай адміністрацыяй, у выніку якіх акупанты прызналі ўрад Варонкі прадстаўніцтвам беларускага насельніцтва. Немцы дазволілі Сакратарыяту весці легальную дзейнасць на тэрыторыі Меншчыны, галоўным чынам у галіне стварэння мясцовай адміністрацыі, школьніцтва і выдавецкай справы. Наступным крокам было ўжо абвяшчэння незалежнасці БНР.

Падрыхтаваў **Уладзімір ХІЛЬМАНОВІЧ**

# Беларускія запусты ў беластоцкім клубе

Беларускія запусты ў гэтым годзе адбыліся 16 лютага, у пятніцу. Мы разам з жонкай і сябрамі з Гайнаўкі паехалі на таксі ў беластоцкі клуб «Gwint» на 22-ю гадзіну. На сцэне беластоцкага клуба першым выступіў калектыў «Прымакі» з Гарадка са сваім лідарам Юркам Астапчуком. Зайгралі песні з апошняга альбома («Ты думай, думай», «Каханы мой», «Да каханай»), а таксама старыя правераныя хіты «Смэрэко», «Цыганка», «Карнавал» і кавер Алы Пугачовай «Миллион алых роз». «Як гуляеце? Вітаем вас!» так лідар гурта «Ас» Славамір Трафімюк апоўначы ветліва прывітаў сабраную публіку. Затое «Ас» іграў большасць навінак, якія з'явяцца на навейшым альбоме «Васямнаццаць гадоў», «Сустрэў я ружу», рускую версію хіта «Na zamku», а таксама песні з альбома 2012 года, славуты хіт-кавер Андрэя Бандэры «Ты ляці мая душа», кавер Сяргея Славянскага «Белая чаромушка» ці «Верыў я, верыў». У час выступлення спадар Славамір ветліва вітаўся з людзьмі ў першых радах, а маладыя людзі разам з «Асам» спявалі ўсе песні. Здзівіла мяне папулярнасць самага маладога на запустах гурта «Добрыя грайкі». Вядома, «Ас» і «Прымакі» выступаюць на сцэне больш за 20 гадоў, а «Добрыя грайкі» з'явіліся ў канцы 2011 года. Але ўся публіка спявала з імі ўсе песні ад пачатку да канца. Можа таму, што «Добрыя грайкі» маюць многа аўтарскіх беларускіх жартоўных песень, якія піша выпускнік беларускай філалогіі Вальдэк Сакові́ч (DJ Valdi), ураджэнец Гайнаукі. А можа таму, што песні гурта «Добрыя грайкі» гучаць у эфіры Радыё Ярд, якое вяшчае на ўсё Падляшша. А можа таму, што «Добрыя грайкі» на Youtube маюць многа студыйных кліпаў? Лідар гурта Кшыштаф Татарчук раздаваў кампакт-дыскі. Маёй жонцы пашчасціла (хаця страціла завушніцы) і злавіла іх дыск «Будзем танцаваць».«Неўзабаве выйдзе новы, ужо трэці наш альбом», — заявіў мне лідар гурта «Добрыя грайкі».

Апрача згаданых гуртоў на сцэне выступілі фольк-група «Добрына», вядомая з выступлення ў тэлепраграме Кубы Ваявудскага, а таксама Вячаслаў Васілеўскі — гарманіст з Менска, які часта іграе на вуліцы Суражскай у Беластоку. Сёлетнія запусты лічу ўдалымі. Мы гулялі ад гадзіны 22-й да 4-й раніцы.

Запусты вельмі падабаліся жонцы майго сябра, якая нарадзілася ў Гданьску. «Праваслаўе граф. Я — Рафал. Я люблю беларускую музыку», — адрэкамендаваў сябе незнаёмы хлопец з Кур'янаў. Жонку зачапіла сяброўка з часоў ліцэя. «Нашы жонкі пасябравалі», — усміхнуўся да мяне яе мужык і паціснуў мне руку. Таксама і я сустрэў знаёмую з часоў вучобы на ўніверсітэце, якая з хлопцам гуляла пад самой сцэнай. Калі я заказваў піва пры бары, хлопец сварыўся з дзяўчынай на беларускай мове. Напэўна большасць гуляючых на запустах гэта беластоцкія студэнты, але і хапала людзей, якім больш за трыццаць. Людзей быў поўны зал ад пачатку да канца імпрэзы.

Юрка БУЙНЮК

ЗАПРАШЭННЕ

Арганізацыйны камітэт святкавання стагоддзя Беларускай Народнай Рэспублікі сардэчна запрашае

Чытачоў Нівы

на ўрачыстыя мерапрыемствы, якія адбудуцца ў нядзелю 25 сакавіка 2018 года ў Беластоку.

У праграме:

10:00 Царква св. Яна Тэолага, вул. Збігнева Герберта 1
• Святая літургія і малебен за беларускі народ

15:00 Падляшская опера і філармонія, вул. Падлесьна 2
• урачыстыя выступленні і віншаванні
• выступ танцавальнага дзіцячага калектыву „Падляшскі вянок"
• канцэрт Лявона Вольскага

Gminny Ośrodek Kultury w Orli zaprasza na promocję wydawnictwa

Goście:
Michał Mincewicz
Bohaterowie książki

24 luty 2018 r.
godz. 15.00

Sala Bankietowa "Maestro"
ul. Mickiewicza 1A, Orla

Możliwość zakupu książki.

Michał Mincewicz
Orla. Historie prawdziwe
cz. 1
Odchodzący świat profesji i pasji mieszkańców Orli i okolic

# Адгаданка

1. Аляксандр Рыгоравіч, 2. раённы горад на р. Мухавец, 3. сярэдневяковы мусульманскі насельнік паўднёвай часткі Пірэнейскага паўвострава, 4. аддзел запісаў актаў грамадскага стану, 5. кавалак старой паношанай тканіны, 6. Чарльз, амерыканскі авіятар, які 20 мая 1927 года беспасадачна пераляцеў з Нью-Ёрка ў Парыж, 7. карэйская грашовая адзінка, 8. пара казлу, 9. сёмая літара беларускага алфавіта, 10. без агню яго не бывае, 11. галоўны ў гміне, 12. замерзлая гразь, у якой ... руда, 13. цёплы лёгкі вецярок, 14. упрыгожанне, 15. паразітычнае бяскрылае насякомае (*Pulex irritans*), 16. гарбатая жывёліна пустынь і стэпаў.

| | | | | | | | | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | 1 | | 2 | | | 3 | | 4 | | | | | | | |
| | | | | | | | | | | 5 | 6 | | 7 | | |
| | | 8 | | | | | | 9 | 10 | | | | | | 11 |
| | 12 | | | | | | | | | | | 13 | | | |
| | | | | 14 | | 15 | | | | | | 16 | | | |

Адгаданыя словы запісаць у вызначаныя дарожкі, пачынаючы ад поля з лічбай. У светлых палях атрымаецца рашэнне — беларуская прагаворка.

(ш)

Сярод чытачоў, якія на працягу месяца дашлюць у рэдакцыю правільныя рашэнні, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

**Адказ на адгаданку з 5 нумара**

Алыча, поўдзень, пячаць, цуд, чых, шашлык, ютрань.

Рашэнне: **Па Калядах уночы трашчыць а ўдзень плюшчыць**.

Кніжныя ўзнагароды высылаем **Анне Дэм'янюк** з Бельска-Падляшскага і **Уладзіміру Цілюльку** з Саколкі.

# 25.02 — 03.03

**(22.03. — 20.04.)** Выпадзе выдатная магчымасць адправіцца ў падарожжа з роднымі людзьмі ці ў кампаніі каханага чалавека. На першае месца выйдзе сям'я, адносіны, дзеці, а таксама імкненне да самаразвіцця і самаўдасканалення. Змена становішча і добры адпачынак дапамогуць абзавесціся свежымі ідэямі і сіламі на іх увасабленне ў жыццё, адкрыюць новыя перспектывы для росту, як асабіснага, так і прафесійнага.

**(21.04. — 21.05.)** Быкі могуць адчуваць сябе крыху знясіленымі і стомленымі. Абавязкова варта заняцца сабой — палепшыць якасць жыцця, змяніць інтэр'ер, памяняць стыль і лад, абнавіць гардэроб, пачытаць карысную літаратуру, паслухаць расслабляльную музыку.

**(22.05. — 22.06.)** Час адзначыцца падвышаным узроўнем фераманоў у атмасферы, спрыяючы любові і страсці. Магчымыя новыя адносіны, адраджэнне затухлых пачуццяў. Адносіны ў сям'і рамантычныя і глыбокія. Нярэдна ў гэты перыяд нехта разнастаціць сваё асабістае жыццё, напрыклад, стварыць новую сямейную традыцыю ці рытуал, які яшчэ больш згуртуе ўсіх членаў сям'і і напоўніць жыццё гармоніяй і шчырай любоўю, што важна для вашага шчасця і дабрабыту.

**(23.06. — 23.07.)** Любоўныя прыгоды і запал у шлюбных адносінах. Закаханыя стануць адчуваць адзін аднаго на адлегласці. У самотных Ракаў ёсць шанц сустрэць свайго спадарожніка жыцця. Можна трохі расслабіцца і адпачыць. Нядрэнна аддаць час сабе, павысіць свой узровень развіцця, самаацэнку, адкрыць у сабе новыя таленты, змяніць імідж або адмовіцца ад шкодных звычак. Жыццё стане нашмат ярчэй.

**(24.07. — 23.08.)** Энергічнасць і насычанасць жыцця. У гэты перыяд адбудзецца шэраг падзей, якія могуць перавярнуць свядомасць з ног на галаву. Гэты перыяд можа стаць пераломным у жыцці. Не варта палохацца загадзя, усе перамены будуць толькі станоўчымі і прыемнымі.

**(24.08. — 23.09.)** Час адзначыцца некаторым творчым ступарам. Будзе здавацца, што думкі застылі, паток ідэй вычарпаўся, а сілы на зыходзе. Але не ўсё так змрочна, як здаецца. Паспрабуйце ў гэты час аднавіць сілы, папесціць сябе маленькімі прыемнасцямі, добра адпачыць. Будуць станоўчыя перамены.

**(24.09. — 23.10.)** Можна ўздыхнуць больш вольна. Сітуацыя на працы стабілізуецца і справы пойдуць угару, у хаце ўсё будзе спакойна і гарманічна, а на душы супакаенне. Можаш ажыццявіць сваю даўнюю мару. Можна папесціць сябе ўсякай смачнотай або новымі элементамі гардэроба, новай бытавой тэхнікай.

**(24.10. — 22.11.)** Зможаце зрабіць значны прарыў у творчасці. З'явіцца нямала крэатыўных ідэй, адкрыюцца новыя таленты, проста захочацца ствараць. Творчы пасыл прывядзе да развагі пра сэнс жыцця і сваё прызначэнне. Гэта адзін з важных этапаў, дзякуючы якому Скарпіёны набяруцца сіл, зарадзяцца энергіяй, здабудуць стымул і матывацыю, стануць духоўна мацнейшымі і больш упэўненымі ў сабе.

**(23.11. — 22.12.)** Зможаце падвесці вынікі праведзенай працы. Вынікі стануць добрай нагодай парадавацца за сябе, пачаць сабой ганарыцца. Не варта спыняцца на дасягнутым, бо наперадзе вас чакае нашмат больш цудоўных і прыемных здзяйсненняў і перамог.

**(23.12. — 20.01.)** Дастаткова няпросты перыяд, і ў сілу збегу абставін побач не апынецца ніхто, хто мог бы вас падтрымаць. Гэта своеасаблівае выпрабаванне на трываласць і мэтанакіраванасць. Калі вам уласціва моцнае жаданне дамагчыся свайго, вы з лёгкасцю пераадолееце цяжкасці і дамажацеся поспеху.

**(21.01. — 19.02.)** Атрымаеце асалоду ад сваіх поспехаў і падлічыце свае дасягненні. Будзеце актыўнымі і энергічнымі, у вас з'явіцца вольны час для вырашэння пытанняў, якія тычацца сям'і і асабістага жыцця. Можаце дазволіць сабе невялікую перадышку, паўзу, і зможаце добра адпачыць. А для пачатку хаця б адсвяткуйце сваю перамогу, свой поспех. Вы гэта заслужылі сумленнай і ўпартай працай.

**(20.02. — 21.03.)** Можа адбыцца падзея, якая запатрабуе ад Рыб настойлівасці і мужнасці, каб застацца вернымі самім сабе. Магчымы некаторы энергетычны спад. Гэта сведчыць пра тое, што пара адпачыць і аднавіць сілы. Магчыма, ёсць сэнс пашукаць новыя крыніцы натхнення і матывацыі. Паспрабуйце перамагчы свае ўнутраныя комплексы і павысіць самаацэнку. Навучыцеся сябе кахаць і жыць поўным жыццём.

Агата АРЛЯНСКАЯ

Ніва ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ
PL ISSN 0546-1960
NR INDEKSU 366714

**Выдавец**: Праграмная рада тыднёвіка „Ніва".
**Старшыня**: Яўген Вапа.
**Адрас рэдакцыі:** 15-959 Białystok 2, ul. Zamenhofa 27, skr. poczt. 84.
**Тэл./факс:** (+48 85) 743 50 22.
**Internet**: *http://niva.bialystok.pl/*
**E-mail**: *redakcja@niva.bialystok.pl*
***Zrealizowano dzięki dotacji Ministra Spraw Wewnętrznych i Administracji.***
**Галоўны рэдактар:** Яўген Вапа.
**Намеснік гал. рэдактара:** Віталь Луба.
**Тэхнічны рэдактар:** Адам Паўлоўскі.
**Рэдактар „Зоркі":** Ганна Кандрацюк-Свярубская.
**Публіцысты:** Мікола Ваўранюк, Аляксандр Вярбіцкі, Ганна Кандрацюк-Свярубская, Уршуля Шубзда, Міраслава Лукша, Іаанна Чабан, Аляксей Мароз, Віктар Сазонаў, Уладзімір Хільмановіч, Юрка Ляшчынскі, Янка Целушэцкі.
**Канцылярыя:** Галіна Рамашка.
**Друкарня**: „Orthdruk", Białystok.
Tekstów nie zamówionych redakcja nie zwraca. Zastrzega sobie również prawo skracania i opracowania redakcyjnego tekstów nie zamówionych. Za treść ogłoszeń redakcja nie ponosi odpowiedzialności.
**Sprzedaż egzemplarzową „Niwy" prowadzą:** kioski i punkty sprzedaży „RUCH" na terenie woj. podlaskiego oraz w Warszawie (odbiór należy zgłosić u sprzedawcy wybranego kiosku lub punktu sprzedaży „RUCH"), placówki pocztowe i listonosze w woj. podlaskim, kioski i punkty sprzedaży „KOLPORTERA" oraz „GARMOND PRESS", siedziba redakcji „Niwy".
**Prenumerata krajowa**
„POCZTA POLSKA", „KOLPORTER", „RUCH" — kwartalna 32,50 zł., półroczna 65 zł., roczna 130 zł.
Redakcja „Niwy" — kwartalna 60 zł., półroczna 120 zł., roczna 240 zł.
Wpłaty przyjmują urzędy pocztowe na terenie województwa podlaskiego oraz oddziały „KOLPORTER" na terenie całego kraju.
Zamówienia na prenumeratę realizowaną przez RUCH S.A. można składać bezpośrednio na stronie www.prenumerata.ruch.com.pl
Ewentualne pytania prosimy kierować na adres e-mail: prenumerata@ruch.com.pl lub kontaktując się z Telefonicznym Biurem Obsługi Klienta pod numerem: 801 800 803 lub 22 717 59 59 – czynne w godzinach $7^{00}$ – $18^{00}$.

**Wpłaty na wysyłkę z redakcji przyjmuje:**
**Rada Programowa Tygodnika „Niwa",**
BANK PEKAO S.A. O/Białystok
38 1240 5211 1111 0000 4929 0945

**Nakład:** 1 300 egz.


■ «Знічка»


■ «Белая Русь»

# XXV Агульнапольскі фестываль «Беларуская песня»

## Пік выканаўчага майстэрства

Агульнапольскі фестываль «Беларуская песня — 2018» сёлета прайшоў ужо дваццаць пяты раз запар. Сотні людзей, сабраных у пятніцу 16 лютага ў зале Падляшскай оперы і філармоніі, захапляліся музычным відовішчам, у час якога прэзентаваліся артысты з розных куткоў Падляшша. Феномен гэтага мерапрыемства заключаецца ў тым, што менавіта тут прэзентуецца культурная спадчына і артыстычнае майстэрства творцаў у Польшчы.

— Журы прафесіянальна ацэньвае ўсіх выканаўцаў і адбірае тых, якія прадстаўляюць сабой самы высокі выканаўчы ўзровень, — адзначыў старшыня Беларускага грамадска-культурнага таварыства Ян Сычэўскі. — Гэта ўжо найбольш таленавітыя выканаўцы і выканаўцы, якія пры дапамозе інструктараў, або пры ўласнай ініцыятыве выпрацавалі вельмі цікавы выканаўчы ўзровень.

Гала-канцэрт «Беларуская песня — 2018", які прайшоў 19 лютага, прыцягнуў на сцэну 27 калектываў з розных частак Падляшша і два з беларускага Мінска: «Белая Русь» і «Бацька Атаман». Усіх іх аб'ядноўвае беларуская мова і менавіта песня, якой ганарацца на сцэне.

— Тут самыя лепшыя. І заўсёды добра бачыць на сцэне так вядомыя ансамблі на Беласточчыне, як «Прымакі», «Маланка», «Ас» і іншыя, — сказаў пасол Беларусі ў Польшчы Аляксандр Авяр'янаў. — Таксама будуць выступоўцы з Беларусі, але ўсё-такі мы тут сабраліся, каб паслухаць беластоцкую музыку, беластоцкія спевы. Я вельмі рады, што тут прысутнічаю разам з вамі.

## Няма прайграўшых

Пасля раённых аглядаў, якія прайшлі ў такіх гарадах як Гайнаўка, Беласток, Сямятычы, Бельск-Падляшскі, Дуброва-Беластоцкая, адбыўся цэнтральны агляд у Гайнаўцы. Менавіта тут вырашылася, хто прыме ўдзел у гала-канцэрце і выступіць на вялікай сцэне Падляшскай оперы і філармоніі.

— Гэта вялікі штуршок, каб дабівацца штораз вышэйшага выканаўчага ўзроўню. Вядома, што людзі, якія спяваюць на сцэне, маюць вялікі гонар тады, калі прылічаць іх да ліку выканаўцаў гала-канцэрта беларускай песні, — сказаў Ян Сычэўскі. — Як вядома, амаль усе ўдзельнічалі ў аглядах-конкурсах і таксама для іх вялікі гонар, калі могуць выступіць перад камісіяй і мець надзею, што камісія заквалiфікуе іх на гала-канцэрт, але усё ж такі гала-канцэрт гэта пік, я б сказаў, выканаўчага майстэрства і ў сувязі з гэтым гэта самы вялікі, самы моцны стымул.

Адборы да фестывалю беларускай песні гэта перш за ўсё матывацыя да творчай працы. Калектывы вельмі часта не абмяжоўваюцца да вядомага ўжо рэпертуару, але прабуюць таксама нечым новым захапіць журы.


■ «Немаральная прапанова»



— Для кожнага з нас, для кожнага артыста, спевака, або калектыву вельмі важна трапіць на такую вялікую імпрэзу, таму што гэта вынік усіх конкурсаў, усёй падрыхтоўкі, — кажа Юры Ганевіч з калектыву «Чыжавяне». — Напрыклад мы да гэтага ішлі з лета! Мы падрыхтавалі вельмі прыгожую песню. Яна проста не магла не перайсці (*смех*). Песня «Малая радзіма» з горада Шчучын. Кампазітар Генадзь Паноў мне спецыяльна спрэзентаваў гэту песню для нашага калектыву.

Тыя гурты, якія сёлета не выступалі на галоўным канцэрце, прысутнічалі ў ім як гледачы. Варта дадаць, што няма ў іх адмоўных эмоцый. Наадварот, глядзяць, прыслухоўваюцца і падахвочваюць.

— Прыехалі проста, каб паглядзець. Мы не толькі перажываем за свой хор, але таксама і за другія, — сказала Юлія Міранчук з гурту «Васілёчкі». — Маем сяброў у іншых калектывах і ансамблях і таксама хочацца пабачыць іхнія выступы.

Старэйшых і больш вопытных членаў гуртоў найбольш цешаць выступы маладых людзей. Гэта доказ на пераемнасць культуры і традыцыі спеву на роднай мове.

— Трэба цэлае жыццё падглядаць, каб імкнуцца да лепшага, — адзначыў Уладзімір Весялоўскі з гурту «Васілёчкі». — Мы ганарымся тым, што нашы харэографы падрыхтавалі салістку з Орлі, якая менавіта сёння мае свой выступ. Але перш за ўсё цешымся, што наша моладзь ідзе наперад, не забывае нашай культуры, песні. Карані, каб толькі не падсушвалі каранёў!

## Узыходзячыя зоркі

На гала-канцэрце фестывалю «Беларуская песня — 2018» можна паглядзець і паслухаць вядомых выступоўцаў, папулярных у сваіх малых бацькаўшчынах і за іх межамі, але таксама ўзыходзячых зорак беларускай песні, таленавітых спевакоў і танцораў, якія мараць аб прэзентаванні сваёй творчасці для больш шырокай аўдыторыі і з'яўленні на музычным беларускім рынку.

— У мінулым годзе мы былі на першым курсе ўніверсітэта, зараз ужо на другім. Летась мы нават не прымалі ўдзелу ў адборы да «Беларускай песні», але ўсё-такі чагосьці не хапала, — сказала Марта Зінкевіч з бельскага калектыву «Вянок». — Сёлета мы вырашылі паспрабаваць, нават калі не ўдалося б зайсці аж так далёка, не шкадавалі б. Самую прыемнасць дае супольнае спяванне. А атмасфера на гала-канцэрце таксама нейкая... непаўторная.

Малодшая частка выступоўцаў апрача спеву і харэаграфіі верыць таксама ў пазітыўную энергію, якую могуць перадаць гледачам са сцэны. Самае галоўнае — усмешка.

— Наш калектыў гэта 12 асоб. Мы заваявалі сэрцы журы вельмі файнай песняй «Чаму ж нам не пець», — адзначыла Наталька Васько з гайнаўскага калектыву «Знічка». — Наш школьны калектыў таксама танцуе да гэтай песні і мы падумалі, што файна будзе паказаць і танец. Менавіта нашай харэограф з'яўляецца настаўніца Вольга Вілюк і яна навучыла нас можа нескладаных крокаў, але такіх, каб мы крыху варушыліся на сцэне. Сёлета наш калектыў меў шмат поспехаў і дасягненняў, усё ідзе ў добры бок.

Іншыя фіналісты таксама зрабілі стаўку на моцнае сучаснае гучанне вядомай песні. Саксафон, бубны, бас-гітара ў спалучэнні з вядомай песняй можа прынесці поспех. Нават не адзін раз.

— Для нас вельмі прыемна, што ўдалося чарговы раз спяваць на гала-канцэрце. У мінулым годзе выступалі з песняй «Калі каліна», а сёлета з «Чаркай віна», — адзначыў Давід Крот з гурту «Немаральная прапанова». — Наш гурт цалкам свежы, мы іграем толькі паўтара года. Гэта магчыма дзясяты, або адзінаццаты наш канцэрт увогуле!

Агульнапольскі фестываль «Беларуская песня — 2018» перш за ўсё ўмацоўвае беларускую супольнасць. Было відаць, што выступоўцы, як і ўдзельнікі, ставяцца да фестывалю як да агульнага дабра. Гэта такі прыгожы невялікі свет.

**Уля ШУБЗДА**
фота аўтаркі

ISSN 0546-1960 08